


# рэгіянальная газета

13 снежня 2013 года
№ 50 (972)

Тэлетыдзень 26

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




У дзіцячым парашку фасфатаў удвая больш. Гэта вызначылі вучні Нарацкай школы.

3-я старонка



Жывёла ў кватэры. За што плацяць гаспадары?

23-я старонка



Загадайце жаданне і патрыце ката па гадзіннікавай стрэлцы 13 разоў.

І яно споўніцца!

Зрабіце пятніцу, 13 2013 года, шчаслівай.

## навіны рэгіёна

### У Нарачанскім краі збіраюцца будаваць сонечную электрастанцыю

**МЯДЗЕЛ**. Літоўская кампанія збіраецца будаваць на Мядзельшчыне электрастанцыю на сонечных элементах. У гэты аб'ект яна плануе ўкласці каля 12 мільёнаў долараў. Размесціцца электрастанцыя паміж вёскамі Швакшты і Рудашаны. Мяркуемая яе магутнасць – да пяці МВт. На цяперашні момант распрацоўваюць праект электрастанцыі, праводзяцца экспертызы. Непасрэдна да рэалізацыі праекта плануюць прыступіць вясной наступнага года, паведаміў намеснік старшыні Мядзельскага райвыканкама **Леанід Берняковіч**.

### Не справіўся з кіраваннем пры абгоне

**МАЛАДЗЕЧНА**. Здарэнне адбылося 6 снежня на трасе Мінск–Маладзечна–Нарач. На трасе Р–28 Мінск–Маладзечна–Нарач кіроўца аўтамабіля "Фіят-Мульціпла" не справіўся з кіраваннем пры абгоне. Кіроўца выехаў на сустрэчную паласу і сутыкнуўся з мікрааўтобусам "Фольксваген". Вызваліць з дапамогай гідраўлічнага інструмента з легкавога аўтамабіля "Фіят-Мульціпла" здолелі 33-гадовага пасажыра. Яго са шматлікімі траўмамі рознай ступені цяжкасці даставілі ў бальніцу №1 Маладзечанскай ЦРБ. Кіроўцы легкавога аўтамабіля і мікрааўтобуса не пацярпелі. Дзяржаўтаінспекцыя звяртае ўвагу кіроўцаў: будзьце асабліва пільныя зімой і пры руху ўлічвайце ўмовы надвор'я.

**Аддзел інфармацыі.**



# Ці стане Залессе турыстычным цэнтрам



Фота Lisaykin@mail.ru

Брэнд Залесся – сядзіба Агінскага.

**СМАРГОНЬ. Вёска Залессе – у 12 кіламетрах ад Смаргоні. Сёння тут амаль тысяча жыхароў, якія змагаюцца, каб вёска не толькі жыла, але і квітнела.**

Робячы стаўку на сядзібу Агінскага, моладзь едзе вучыцца турызму і спадзяецца, што ім будзе куды вярнуцца працаваць. Зараз сядзіба на рэстаўрацыі, ужо ў наступным годзе яе можа запрацаваць.

– Калі мы хочам, каб жыхары і іх дзеці заставаліся тут, мы павінны думаць пра заўтра і паслязаўтра, – тлумачыць сябра ініцыятыўнай групы па ўстойлівым развіцці Залесся **Галіна Мацюшэнка**.

Саму стратэгію развіцця вёскі пачалі распрацоўваць яшчэ пяць гадоў таму. І з году ў год Залессе паступова мяняе сваё аблічча.

Сёлета пабудавалі дзве дзіцячыя пляцоўкі, дзе не толькі турнікі, але і клумбы, маладыя дрэвы, высаджаныя жыхарамі падчас адмыслова праведзеных акцый.

**Сёлета ў лістападзе на сельскім дзелавым форуме "Сельскія рэгіёны – магчымасці для развіцця бізнесу і творчай ініцыятывы маладых" прадставілі першую ў краіне грамадскую справаздачу аб прагрэсе развіцця.**

### Адкуль грошы

Грошы на пабудову ідуць з мясцовых арганізацый і прадпрымальнікаў, а таксама з міжнародных праектаў.

Ужо падрыхтавалі заяву ў праект агенцтва ЗША па міжнародным развіцці "Мясцовае прадпрымальніцтва і эканамічнае развіццё". Яго спансуе прадстаўніцтва ААН для стварэння на Смаргоншчыне турыстычнага цэнтра "Паўночныя Афіны", куды ўваходзіць і Залессе.

Яшчэ дзве заявы падрыхтаваны на конкурс па фінансаванні грамадскіх ініцыятыў "Мясцовае прадпрымальніцтва і эканамічнае развіццё".

Таксама падрыхтавалі партнёрскі праект на конкурс Еўрапейскай камісіі па развіцці турызму на Смаргоншчыне.

### Брэнд Залесся – сядзіба Агінскага

Залессе – не проста вёсачка на ўскрайку. Тут штогод ладзіцца фальклорны фестываль "Залессе збірае сяброў", святкуюць, згодна з традыцыямі, "Купалле" ды "Масленіцу". І ёсць дзе. Сёлета якраз валанцёрскі атрад клубаў ЮНЕСКА ў другі раз чысціў рэчышча ракі Драй.

У Залескім Доме культуры ёсць народны тэатр "Батлейка". Жыхары плануюць праводзіць тут фестываль лялечнікаў.

– Аднак брэндам Залесся павінна стаць сядзіба Агінскага, – робіць акцэнт Галіна Мацюшэнка. – Ужо сёлета прыехала шэсць тысяч турыстаў. Пасля яе рэстаўрацыі ім яшчэ будзе дзе пераначаваць, бо ўнутры пабудуюць шэсць гасцінічных нумароў. Лічба такая вымалёўваецца дзякуючы праезджым турыстам, якія, напрыклад, едуць глядзець Смаргонь і па дарозе заязджаюць да нас.

### Развіваць безбар'ерны аграэкатурызм

Акрамя гасцінічных нумароў, у Залессі зможа прымаць гасцей і аграсядзіба. Яна ўжо пабудаваная, але гасцей не прымае.

У планах яе гаспадароў, мясцовай сям'і Ліс, заняцца не проста аграэкатурызмам, але і развіваць безбар'ерны турызм. Каб людзі з абмежаванымі магчымасцямі маглі без прашкод тут адпачываць.

– Акрамя сядзібы Агінскага, тут ёсць Вілія, возера, побач лес, – тлумачыць, чым гэты край прывабны для турыстаў, **Дар'я Ліс**. – У нас працуе дом рамёстваў, дзе ладзяць майстар-класы па цікавых традыцыйных рэчах: саломцы, вышыванні, ткацтву. Тут спадчына Першай і Другой сусветных войнаў.

Дар'я – інвалід. Пытанне безбар'ернага асяроддзя для яе прынцыповае.

– У мяне ўжо ёсць пэўны досвед у пошуку месцаў для адпачынку, – кажа яна. – У Парыжы, Гданьску, Сопаце і Палянзе. Паўсюль свае плюсы і мінусы. Найбольш мінусаў у Беларусі. Возьмем Польшчу. Пару дзён жыла там у аграсядзібе ў Белавежскай пушчы. Нават у люты мароз не было ніякіх праблем з перамяшчэннем па тэрыторыі дома, двара. Дзе знайсці такое месца ў нас?

**Настасся РОЎДА.**

ПАМЯЦЬ

# Падсумавалі працу ў гонар паўстання

**ВІЛЕЙКА. У нядзелю, 8 снежня, у Вілейцы прэзентавалі адразу дзве кнігі, якія пабачылі свет гэтым летам.**

Спачатку археолаг і гісторык **Мікалай Плавінскі** разам з прадстаўніком кампаніі "Будзьма" **Міраславам Лазоўскім** распавялі пра серыю кніг "Беларусь у войнах", над якой яны плануюць сумесна працаваць. І першай у серыі стала кніга Мікалая Плавінскага "Узбраенне беларускіх земляў X – XIII стагоддзяў", якую госці прывезлі ў Вілейку.



Фота забяспечана Дзянісам КАНЕЦКІМ.

Гісторык Мікалай Плавінскі разам з прадстаўніком кампаніі "Будзьма" Міраславам Лазоўскім распавялі пра серыю кніг "Беларусь у войнах", над якой яны плануюць сумесна працаваць.

Па меркаванні аўтара, гэта кніга будзе цікавая незалежна ад узросту. Хіб многіх навукова-папулярных кніг у тым, што аўтары не імкнуцца зрабіць штосьці адмысловае, а перапісваюць кнігі папярэднікаў. І з'яўляецца ўражанне, што літаратуры нават занадта шмат, але сярод яе вельмі мала якаснай.

Наступная кніга ў гэтай серыі – "Паўстанне 1863-1864 гадоў у Беларусі: нарыс баявых дзеянняў" кандыдата гістарычных навук **Дзмітрыя Мацвейчыка**.

Актыўныя ўдзельнікі прэзентацыі атрымалі падарункі ад кампаніі "Будзьма" – дыскі, сумкі, іншыя.

### Набывалі кнігу пра паўстанне на Вілейшчыне

У другой частцы імпрэзы адбылася чарговая прэзентацыя кнігі сяброў вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры **Дзмітрыя Хаценчыка** і **Дзяніса Канецкага** "Падзеі паўстання 1863 года на Вілейшчыне". Першая прэзентацыя выдання адбылася вясной. У кастрычніку кнігу перавыдалі накладам 500 асобнікаў.

### Альманах здаюць у друк

Сярод планаў на год, прысвечаных 150-годдзю паўстання Кастуся Каліноўскага, сябры Таварыства агучвалі стварэнне альманаха. Рэдактаваннем тэксту займаецца журналіст "Нашай нівы" з Вілейкі. На пачатку наступнага тыдня альманах здаюць у друк.

Для альманаха ўкладальнікі падрыхтавалі апісанне радаводу Козелаў-Паклеўскіх, апісанне бітвы ля Уладыкаў, артыкул пра вёску Каменка, пра мастака Нікадзіма Сілівановіча і іншыя тэмы, цікавыя жыхарам не толькі Вілейшчыны, але і ўсяго нашага рэгіёна.

### За год выканалі амаль усе планы

Сябры таварыства па-сапраўднаму шчыравалі. Разам з сябрамі выдання "ВОЛАТ" зрабілі спецвыпуск часопіса, прысвечаны паўстанню. Альманах падрыхтавалі да друку.

Ва Уладыках аднавілі помнік паўстанцам пад аўтарствам **Анатоля Капцюга**.

Арганізавалі для ахвотных тры гісторыка-краязнаўчыя экскурсіі па Вілейшчыне і Мядзельшчыне.

Паставілі пакуль пяць інфармацыйных стэндаў.

### Пачалі складаць планы на 2014 год

У наступным годзе Таварыства прысвеціць сваю дзейнасць адразу некалькім датам: 220-годдзю паўстання Тадэвуша Касцюшкі, 500-годдзю Аршанскай бітвы.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

УЛАДА

# Першы выезд Сямён Шапіра правёў у Мядзеле

**МЯДЗЕЛ. Старшыня Мінаблвыканкама Сямён Шапіра 4 снежня правёў прыём грамадзян па асабістых пытаннях у Мядзельскім райвыканкаме.**

Гэта быў першы яго выязны прыём на новай пасадзе.

Хвалявалі людзей пытанні няякаснага будаўніцтва жылля, адсутнасці цэнтральнага водапровода

З просьбамі наконт пракладкі водапровода да старшыні абласнога выканаўчага камітэта звярнуліся жыхаркі Мядзела і вёскі Нарач (Кабыльнік).

"Гэту работу трэба зрабіць, забяспечыць людзей вадой да верасня 2014 года", – сказаў ён, звяртаючыся да старшыні Мядзельскага райвыканкама **Іллі Шацько**. Прычым губернатар падкрэсліў, што пракладка водапровода не павінна быць затратнай. Калі ўсё зрабіць па-гаспадарску, то можна ўкласціся ў бюджэтную суму.

Прадстаўнікі жыллёвага кааператыва "НарачБуд" паскардзіліся на якасць будаўніцтва шматкватэрнага дома ў курортным пасёлку Нарач (Купа). Там няякасна ўстаноўленыя вокны і балконныя дзверы. Лічаць жыхары, што яны значную суму пераплацілі за ацяпленне. Будавала дом фірма "Барыт" з Маладзечна.

Завіталі на прыём з пытаннямі падтаплення двароў і агародаў і іншымі.

**Аддзел інфармацыі.**

ШКОЛА

# Вучні "Логаса" перамагаюць у алімпіядзе

**ВІЛЕЙКА. У лістападзе закончыўся другі (раённы) тур рэспубліканскай алімпіяды. І нам асабліва прыемна адзначыць, што гімназія №1 "Логас" зноў пацвердзіла сваё імя.**

Хочацца асабліва адзначыць гімназістаў, якія прымалі ўдзел у алімпіядзе па двух прадметах і занялі прызавыя месцы. **Надзея Лапцік**, вучаніца 11 "Б" класа, заняла першае месца па матэматыцы і інфарматыцы. Надзеі ўдалося выканаць заданне па матэматыцы на 100%, другое месца мела толькі 14%.

**Вікторыя Рагоўская**, вучаніца 10 "Б" класа, прынесла гімназіі таксама два першыя месцы: па беларускай мове і геаграфіі. Варта адзначыць і тых, хто пастаянна прымае ўдзел у алімпіядах. **Таццяна Нікалаевіч**, прызёр апошняга тура рэспубліканскай алімпіяды па рускай мове (кіраўнік **Алена Мількота**), зноў на вышыні. Першае месца ў раённым этапе, а таксама прызёр міжнароднай алімпіяды "Беларусь-Расія".

**Гімназія "Логас" атрымала 26 прызавых месцаў, з іх 12 першых, 9 другіх і 5 трэціх.**

Не адзін год займаюць прызавыя месцы **Яўген Ручыц** з 10 "А" па працоўным навучанні, **Маргарыта Скабей** з 11 "В" па беларускай мове, **Алена Пенда** з 10 "А" па рускай мове, **Наталля Кузняцова** з 11 "В" па біялогіі, **Мікіта Агурцоў** з 11 "Б" па гісторыі, **Марыя Сільвановіч** з 10 "Б" і іншыя.

Упершыню прымалі ўдзел у алімпіядзе нашы дзевяцікласнікі. Вынікі таксама радуюць: першае месца ў **Вольгі Ількевіч** па беларускай мове, **Вікторыі Кезік** – па матэматыцы. Другое месца ў **Аляксандры Шульгач** па рускай мове, **Паўла Кохана** – па фізіцы.

Вынікі добрыя, але гэта толькі другая прыступка да вяршынь рэспубліканскай алімпіяды. Хочацца спадзявацца, што многім гімназістам удасца не толькі перайсці на трэцюю прыступку, але і перамагчы. Сілы, волі і моцнага жадання ім!

### Адкуль прыйшла Алімпіяда

Паводле легенды, Алімпійскія гульні ўпершыню арганізаваў у старажытныя часы Геракл. Праводзіліся яны адзін раз на пяць год. Затым традыцыя правядзення гульняў перапынілася і была адноўлена толькі пры элідскім цары Іфіце прыкладна ў 884-828 гадах да н. э.

Спачатку Алімпійскія гульні не нумараваліся, а называліся па імю пераможцы. Гіпій з Эліды ўпарадкаваў, расставіў па парадку і пранумараваў Алімпійскія гульні на рубяжы 5 – 4 стагоддзяў да н. э., Арыстоцель пазней таксама склаў спіс Алімпійскіх гульняў.

**Алена МАЧЭЛЬ, Вілейка.**

ЭКАЛОГІЯ

# 50 тысяч еўра для экалогіі Вілейшчыны

**ВІЛЕЙКА. Рэгіянальны экалагічны цэнтр для Цэнтральнай і Усходняй Еўропы выдзеліў Вілейшчыне грант у памеры 50 тысяч еўра.**

Атрыманы ён у ходзе рэалізацыі сумеснай заяўкі Вілейскага райвыканкама і грамадскага аб'яднання па садзейнічанні ўстойліваму развіццю Вілейскага рэгіёна "ЗОВіК". Прызначаны грант для рэалізацыі экалагічнага праекта.

– Асноўны этап ажыццяўлення праекта пачнецца ў ліпені, – расказвае намеснік старшыні праўлення "ЗОВіК" **Сяргей Ганчар**. – Да гэтага часу павінны распрацаваць мясцовы экалагічны план дзеянняў.

**– Што гэта такое?**

– Гэта адначасова і працэс, і дакумент. Працэс, у якім праз актыўную працу вялікай колькасці ўдзельнікаў ствараецца дакумент. Потым на яго аснове на наступных этапах рэалізуюцца асноўныя мерапрыемствы, звязаныя з аховай навакольнага асяроддзя на мясцовым узроўні. У канчатковым выглядзе гэта будзе кніга, якая цалкам ахарактарызуе экалагічны стан Вілейскага раёна: як мінусы, так і плюсы. Калі мінусы, то павінны прапанаваць пэўныя шляхі іх вырашэння. Дарэчы, на базе мясцовага экалагічнага плана дзеянняў можна будзе прэтэндаваць потым на іншыя экалагічныя гранты.

**– На якія мэты пойдзе грант?**

– Гэта будзе вядома прыкладна ў чэрвені. Калі распрацуем мясцовы экалагічны план дзеянняў, тады і будзем дакладна ведаць, на якую тэму рэалізуем грант. Адразу заява падавалася на добраўпарадкаванне малой ракі Пляснянкі. – **Цяпер якая ідзе праца?**

– Створаны каардынацыйны савет, працоўныя групы. У іх уваходзяць зацікаўленыя асобы, якія валодаюць інфармацыяй па экалагічнай сітуацыі рэгіёна, зацікаўленыя ў распрацоўцы плана.

Стварэнне дакумента падзеленае на некалькі этапаў: распрацоўваюць яго як спецыялісты, так і звычайныя грамадзяне. Практычна завершана "Канцэпцыя бачання экалагічнай будучыні Вілейскага рэгіёна". Тут сваё меркаванне выказалі спецыялісты.

А ў бліжэйшы час пачнём анкетаванне, каб і мясцовыя жыхары маглі выказаць сваё бачанне экалагічных праблем: адзначыць тое, што іх хвалюе.

Яшчэ 4 снежня пабывалі ў Ашмянах на семінары-практыкуме, які праводзілі спецыялісты Сербскага аддзялення Рэгіянальнага экалагічнага цэнтра для Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Удзельнічалі ў ім прадстаўнікі каардынацыйных саветаў і працоўных груп па распрацоўцы мясцовага экалагічнага плана дзеянняў з Вілейскага і Ашмянскага раёнаў. Нам расказалі пра метадалогію стварэння плана, правялі майстар-класы.

Дадам, што ўсяго ў праекце ўдзельнічаюць дзесяць раёнаў Беларусі і чатыры – з Малдовы. У тым ліку і пабрацім Вілейкі – Чімішлія.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Мясцовы экалагічны план дзеянняў – эфектыўны спосаб экалагічнага кіравання і прыняцця рашэнняў, які арыентаваны на паляпшэнне мясцовых сацыяльных і экалагічных умоў. Прадстаўнікі мясцовых органаў улады, бізнесу, НДА і навукі працуюць сумесна, каб прыйсці да агульнага меркавання адносна прыярытэтаў далейшага развіцця мясцовай супольнасці. (Паводле carecnet.org).

ЗДАРОЎЕ

# У дзіцячым парашку фасфатаў удвая больш




Фота забяспечана Ілонай АДАМОВІЧ.

Злева направа ў ніжнім радзе: Ліза Іларыёнава, Вераніка Даўгучыц, Дзяніс Лявошка, Дзіма Кунавіч, Саша Шышко. Злева направа ў верхнім радзе: Ксюша Балгарская, Святлана Ганчар (кіраўніца), Яна Лукошка, Саша Міклуш, Глеб Фіткевіч.

**ВІЛЕЙКА. Навучэнцы клуба "Назіранні за рэкамі" правялі даследчую работу на выяўленне шкодных рэчываў у мыйных сродках.**

Цяпер мыйныя сродкі маюць для нас вялікае значэнне, бо які чалавек сёння не карыстаецца шампунем, мылам, пральнымі парашкамі, сродкамі для мыцця посуду. Яны дапамагаюць у гаспадарцы і быце, вельмі зручныя і эфектыўныя ў сваім выкарыстанні. Але ці карысныя яны для нашага здароўя?

Менавіта адказ на гэта пытанне захацелі знайсці вучні Нарацкай сярэдняй школы Вілейскага раёна. Школьнікі, якія займаюцца ў экалагічным клубе "Назіранні за рэкамі" разам з настаўніцай геаграфіі **Святланай Ганчар** вырашылі правесці эксперымент: адправіліся ў краму прамысловых тавараў, каб даведацца, якія шкодныя для здароўя рэчывы ёсць у розных мыйных сродках.

### Што выявілі?

Як распавяла Святлана Ганчар, за час даследавання праверылі 18 розных мыйных сродкаў. Сярод іх:

- 12 пральных парашкоў,
- 2 кандыцыянеры для бялізны – "Мара" і "Blis»,
- 2 зубныя пасты – "32 жемчужины" і "Dentovit",
- бальзам для мыцця посуду "Жемчуг",
- вадкі адбельваючы і дэзінфікуючы сродак "Белизна блеск".

Падчас працы юныя даследчыкі выявілі, што амаль ва ўсе мыйныя сродкі ў склад уваходзіць вельмі шкоднае рэчыва – трыполіфасфат натрыю або, прасцей кажучы, фасфаты. Іх знайшлі ў наступных сродках: пральныя парашкі "Мара", "Чайка", "AOS" , "April", "Sorti", "Bonus".

**Колькасць фасфатаў у гэтых пральных парашках – 15%.**

– Але гэта яшчэ не ўсё, – адзначае Святлана Ганчар. – Тое, што мы выявілі, нас вельмі здзівіла. Высвятляецца, што ў дзіцячым пральным парашку "Ушастый нянь" фасфатаў больш, чым у астатніх мыйных сродках. У ім колькасць іх дасягала 30%. А на самой жа справе, пры дапамозе даведак, мы знайшлі, што колькасць фасфатаў у такіх сродках значна большая – каля 40%.

### Чым шкодныя фасфаты?

Навучэнцы клуба, якія вельмі даўно рыхтаваліся да гэтага даследавання, расказалі, што фасфаты дадаюць у розныя мыйныя сродкі, каб "змякчыць" ваду, бо тады яна адмые любы бруд. Але навучэнцы перакананыя, што гэтыя сродкі вельмі небяспечныя як для чалавека, так і для прыроды.

### Фасфаты змывайце 10 разоў

Абгрунтавалі сваю думку яны на прыкладзе звычайнага мыцця бялізны:

– Калі мы памылі адзенне парашком, у склад якога ўваходзяць фасфаты, то, каб пазбавіцца ад іх, трэба, як мінімум, 10 разоў прапаласкаць бялізну ў звычайнай вадзе. У адваротным выпадку можа здарыцца так, што шкодныя рэчывы пачнуць рэагаваць са скурай і слізістымі абалонкамі. А гэта прывядзе да алергіі (напрыклад, з'явіцца сып).

Таксама вельмі важна ведаць, што ў склад фасфатаў уваходзяць цяжкія металы і атрутныя рэчывы. Напрыклад, мыш'як.

### З-за фасфатаў цвіце вада

І гэта не ўсё. Калі весці размову пра прыроду, то тут ужо справа ідзе не толькі пра сваё жыццё, а пра жыццё ўсяго жывога наогул.

– Справа ў тым, што мыйны сродак, у складзе якога ёсць фасфаты, разам з вадой трапляе ў азёры, рэкі, вадаёмы. І ўся бяда ў тым, што гэтыя шкодныя рэчывы выклікаюць цвіценне раслін, таму што дзейнічаюць як ўгнаенні. А ўсё гэта разам прыводзіць да экалагічнай праблемы, бо цвіценне забірае шмат кіслароду, якога потым не хапае рыбам. І яны пачынаюць гінуць, – тлумачаць вучні.

Пасля правядзення даследчай работы навучэнцы раздалі бацькам і настаўнікам анкету, пры дапамозе якой выявілі галоўную прычыну таго, чаму людзі не задумваюцца, якімі сродкамі карыстаюцца і да якіх экалагічных і жыццёвых праблем яны могуць прывесці. Як аказалася, з магчымых 100% апытаных толькі 14% звяртаюць увагу на склад таго, што купляюць.

– Напэўна, лепш вярнуцца да звыклых народных метадаў мыцця адзення і посуду. Гаспадарчае мыла куды лепш, чым пральныя парашкі, якія шкодзяць здароўю, – з расчараваннем адзначыла кіраўніца праекта.

**Ілона АДАМОВІЧ, школа журналістаў пры рэдакцыі "РГ".**

| Курсы валют НБ РБ | 5.12 | 12.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 9 390,00 | **9 410,00** |
| Еўра | 12 740,00 | **12 950,00** |
| Злоты | 3 036,72 | **3 097,48** |
| Літ | 3 693,58 | **3 749,38** |
| Расійскі рубель | 282,50 | **287,50** |
| Грыўня | 1 137,49 | **1 140,95** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9380/9460 | **9400/9470** |
| Еўра | 12740/12850 | **12950/13080** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 4.12 | 11.12 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 105300 | **110500** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45600 | **45050** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 24500 | **23700** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 25000 | **25500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32500 | **32500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 89000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 11500 | **11500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 12000 | **14000** |
| **Алей** | 14800 | **14800** |
| **Маянэз**, 200 г | 5000 | **5000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7500 | **7500** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 8000 | **10000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 5000 | **5500** |
| **Капуста**, 1 кг | 3500 | **3600** |
| **Морква**, 1 кг | 4500 | **4500** |
| **Буракі**, 1 кг | 4500 | **4500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **16000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 15300 | **15000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 16000 | **17500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 18000 | **10500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 18000 | **20500** |
| **Перац**, 1 кг | 29000 | **26000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 21000 | **22000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12000 | **12000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 9500 | **8500** |
| **Грушы**, 1 кг | 20000 | **14000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13000 | **13000** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **87000** |
| **Тварог**, 1 кг | 40000 | **40000** |
| **Бульба**, 1 кг | 4000 | **6000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 20000 | **20000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |

ЭНЕРГАНАГЛЯД

# У вас няма плафонаў? Тады мы ідзём да вас

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад пачатку года маладзечанскае міжраённае аддзяленне філіяла "Энерганагляд" правяло праверкі 1205 домаўладанняў.**

Даследавалі, ці адпавядаюць яны правілам эксплуатацыі электраабсталявання.

Паводле вынікаў выдалі 305 прадпісанняў. Праверка паказала, што сярод тыповых парушэнняў найбольш такіх:

- няма ахоўных плафонаў на лямпах у хлявах і іншых гаспадарчых пабудовах, гаражах, скляпах у 80% правераных;
- мантаж правадоў зроблены адкрыта па драўлянай аснове ў 70% правераных;
- няма злучальных каробак, правады адкрыта скручаныя ў 20% правераных;
- кабелі, якія ідуць праз гарышча, не абароненыя стальной трубой у 20% правераных.

Энерганагляд заклікае выконваць меры энергабяспекі. Папярэджваем, што парушэнне правіл эксплуатацыі электрычных установак пагражае жыццю і здароўю людзей, цягне гібель жывёл, узнікненне пажараў і аварый.

А таксама за парушэнні прадугледжаныя штрафы ў памеры ад 10 да 30 базавых велічынь (1 мільён 300 тысяч рублёў – 3 мільёны 900 тысяч).

Да таго ж можа быць спыненая падача электрычнай энергіі на жылы дом.

**Юры ЕЎСЦІГНЕЕЎ, дзяржаўны інспектар.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# У аварыі загінула чацвёра маладзечанцаў



Фота 112.by.

Каб дастаць людзей з машын, спатрэбілася дапамога МНС.

**МАЛАДЗЕЧНА. Аварыя адбылася раніцай 9 снежня на трасе Мінск-Маладзечна.**

"Рэгіянальная газета" звязалася з намеснікам начальніка аддзела па тылу МНС **Уладзімірам Ляхам**.

– Здарылася трагедыя, якая забрала жыцці чатырох чалавек. Адзін чалавек, гаспадар машыны "Сітраэн", які сядзеў побач з вадзіцелем, выжыў, з траўмамі (ударамі і драпінамі) ён дастаўлены ў Маладзечанскаю гарадскую бальніцу.

Вядома, што кіроўца "Сітраэна" – малады чалавек 1983 года нараджэння. Усе хлопцы ехалі на працу ў Заслаўе.

Вядома таксама, што спатрэбілася дэблакіроўка людзей з машын. Для гэтага былі выкліканы выратавальнікі з Радашкавіцкага аддзела МНС.

**Віталь Мысліцкі**, начальнік каравула, што выязджаў на месца здарэння, паведаміў "Рэгіянальнай газеце", што на момант прыбыцця работнікаў МНС, ён убачыў толькі пабітыя машыны на ўзбочыне. Выратавальнікі дэблакавалі з машыны аднаго жывога чалавека. Давялося ў адной машыне зразаць дах, у другой – дзверы.

### Каментар відавочцы аварыі

Відавочца аварыі **Максім** у гэты час ехаў на працу. Машыны прапускалі па чарзе: то з аднаго боку, то з другога. Яму давялося стаяць каля 10 хвілін:

– Упоперак дарогі стаяла фура, – кажа ён. – Перад ёй на ўзбочыне – машына ўся ўсмятку, быццам слон на яе наступіў. Адным словам, груда металу. На яе накінулі покрыва, мабыць, каб не шакаваць тых, хто праязджаў побач. У 20-30 метрах ад яе, у кювеце, – яшчэ адна машына. Таксама ўся пабітая. Тут жа працавалі МНСнікі і ДАІшнікі. Жудасная аварыя, як у ёй можна было выжыць хоць аднаму чалавеку, – не ведаю.

### Апошняя інфармацыя

У чацвер, 12 снежня, пракурор Маладзечанскага раёна **Уладзімір Дубоўскі** паведаміў, што справа перададзеная ў абласное ўпраўленне ўнутраных спраў. Што насамрэч адбылося на трасе, высветліцца падчас следчага эксперыменту. Узбуджаная крымінальная справа па факце гібелі людзей.

**Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**

МЕРКАВАННЕ

## Мітрапаліт – супраць смяротнага пакарання

**ВІЛЕЙКА. Пра гэта кіраўнік Беларускай праваслаўнай царквы адказаў у лісце на зварот віляйчанкі Тамары Сялюн, чыйго сына прыгаварылі да найвышэйшай меры пакарання.**

Мітрапаліт Філарэт падкрэсліў, што царква выступае супраць смяротнага пакарання ў Беларусі.

У лісце за подпісам мітрапаліта, які цытуе праваабаронцы сайт "Вясна", гаворыцца: "Беларуская праваслаўная царква прыкладае намаганні, каб смяротныя прысуды ў нашай краіне не выконваліся, што цалкам адпавядае палажэнням, выкладзеным у "Асновах сацыяльнай канцэпцыі Рускай праваслаўнай царквы. Хрысціянскае маральнае выхаванне выхавала ў свядомасці людзей адмоўнае стаўленне да смяротнага пакарання. Адмена смяротнага пакарання дае больш магчымасцяў для пастырскай працы з тым, хто аступіўся, і для яго ўласнага пакаяння".

Ліст мітрапаліта Філарэта накіраваны таксама ў камісію па памілаванні пры Адміністрацыі прэзідэнта. Ён далучаны да матэрыялаў справы **Паўла Селюна** і будзе ўлічаны пры разглядзе хадайніцтва аб памілаванні.

Як паведамлялася раней, сёлета 12 чэрвеня Гродзенскі абласны суд прызнаў Паўла Селюна вінаватым па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэкса: забойства дзвюх асоб, учыненае з асаблівай жорсткасцю, крадзеж; здзек над трупамі, крадзеж асабістых дакументаў. Па сукупнасці злачынстваў Селюна прысудзілі да смяротнай кары. Вярхоўны суд пакінуў у сіле прысуд.

Маці асуджанага, як і ён сам, звярнулася да Аляксандра Лукашэнкі з просьбай аб памілаванні. Таксама Павел Сялюн праз свайго прадстаўніка Андрэя Палуду звярнуўся ў Камітэт па правах чалавека ААН.

**Паводле Еўрапейскага радыё для Беларусі.**



ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Загінуў пад коламі ЗІЛа

**МЯДЗЕЛ. Здарэнне адбылося 7 снежня ля вёскі Малая Сырмеж.**

Двое сваякоў, жыхароў курортнага пасёлка Нарач, паехалі ў лес нарыхтоўваць дровы.

Вадзіцель грузавога аўтамабіля ЗІЛ, 1983 года нараджэння, ехаў пад гару, а сваяк, стоячы ззаду машыны, паказваў, як лепш ехаць. Раптам машына адкацілася назад і наехала на яго. Ад атрыманых траўмаў мужчына 1987 года нараджэння загінуў на месцы.

Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу.

Папярэднюю інфармацыю даў супрацоўнік прэс-службы ўпраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама **Аляксандр Грабко**.

**Наталля ТУР.**

ЗДАРЭННІ

## Збег ад п'яных бацькоў

**ВІЛЕЙКА. 3 снежня хлопчыка, які жыве ў вёсцы Калодчына на Вілейшчыне, знайшлі непадалёк на полі мясцовыя жыхары.**

Людзі, убачыўшы на полі хлопчыка, якому на выгляд не больш за 3-4 гады, спыталі, што ён тут робіць. Той адказаў, што збег.

– З намі выехала група па справах непаўнагадовых, спецыялісты аддзела адукацыі, – распавядае намеснік начальніка РАУС, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**. – Высветлілася, што хлопчыку чатыры гады. Ён жыве ў вёсцы Калодчына разам з маці і яе сужыцелем. Маці – 34 гады, сужыцелю – 45. Сюды сям'я пераехала паўтара месяца таму.

3 снежня ён быў разам з імі дома. Бацькі пачалі піць і хлопчык, не вытрываўшы такой "карціны", збег.

Калі міліцыя прыехала ў дом да бацькоў, яны былі ўжо ў неадэкватным стане. На пытанне, дзе іх дзіця, адказалі, што ў суседняй вёсцы ў сваякоў.

– Яны забыліся, што дзіця было разам з імі, – адзначае **Андрэй Дударчык**. – У доме поўная антысанітарыя, прадуктаў няма.

Цяпер пачалася праверка па крымінальна-працэсуальным кодэксе тых фактаў, якія б пацвердзілі няправільныя паводзіны бацькоў. Тады ўзбудзяць крымінальную справу.

Хлопчыка з сям'і забралі. Ён у прытулку.

Інфармацыя аб тым, што сям'я праблемная, накіраваная ў райвыканкам.

**Настасся РОЎДА.**

СЛУЖБА 101

## Знайшлі фрагменты цела

**ВАЛОЖЫН. Пажар адбыўся у ноч з 9 на 10 снежня непадалёк ад вёскі Туркаўшчына.**

Пра пажар паведаміў сусед, але было ўжо позна.

Як паведамілі суседзі, у згарэўшым доме павінен быў знаходзіцца гаспадар, 50-гадовы мужчына, які злоўжываў спіртнымі напоямі. Калі на наступны дзень ратаўнікі разбіралі згарэўшы дом, пад заваламі знайшлі фрагменты цела, касцей.

– Цяпер праводзіцца экспертыза, гэта астанкі чалавека ці не, – паведаміў старшы інспектар дзяржпажнагляду Валожынскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Алег Калітнік**.

**Аддзел інфармацыі.**

ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

## Чыгунка: будзьце пільныя

**МАЛАДЗЕЧНА. У лістападзе на чыгуначным пераездзе станцыі Алёхнавічы здарылася ДТЗ, у якім тры чалавекі загінулі, а адзін траўмаваны.**

Для прафілактыкі аварый на пераездах, папярэджання смерці і траўматызму людзей маладзечанскі аддзел унутраных спраў на транспарце ладзіць спецыяльную акцыю. Ад 10 да 16 снежня адбудзецца комплекс мерапрыемстваў, накіраваных на недапушчэнне дарожна-транспартных здарэнняў на чыгунцы.

Пераканаўча просім!

Выконвайце правілы праезду праз чыгуначныя пераезды. Не праязджайце на забараняльны святла-гукавы сігнал. Беражыце сваё жыццё.

За парушэнне правілаў праезду чыгуначнага пераезда прадугледжаны штраф ад дзвюх да чатырох базавых велічынь (260 – 520 тысяч рублёў).

**Таццяна СУБАЧ,**
**старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце.**

ТЭАТР

# Даеш "Цётухну Прастуду"

**МАЛАДЗЕЧНА. Не толькі ў "хітрым" Галівудзе ўмеюць рабіць "рэмейкі" таго, што падабаецца публіцы. Гэта добра атрымліваецца і ў майстроў сцэны Мінскага абласнога драматычнага тэатра.**

Доказам гэтаму можа служыць дзіцячая казка-мюзікл "Цётухна Прастуда і Новы год" па п'есе **Наталлі Марчук**. Гэта першы спектакль такога жанру ў Мінскім абласным драматычным тэатры.



Фота з архіва тэатра.

**Дзеці цэлых 12 месяцаў чакаюць Новы года. Дайце ім адчуць свята напоўніцу! Дазвольце і сабе завітаць у казку.**

## Хто стварае казку

Гэта вельмі відовішчны і па-сапраўднаму музычны навагодні спектакль паставіла ў 2005 годзе малады таленавіты рэжысёр **Настасся Грыненка**, а харэаграфічныя нумары паставіў вядомы балетмайстар **Дзмітры Якубовіч**. Вясёлую жыццясцвярджальную музыку напісала наш вядомы кампазітар **Алена Атрашкевіч**, якая вельмі многа і плённа працуе для дзяцей.

Да цяперашніх навагодніх святаў казка-мюзікл "Цётухна Прастуда і Новы год" аднаўленая пад кіраўніцтвам майстра сцэны **Алены Рахмангулавай**. Дарэчы, у гэтым спектаклі Алена, кажучы спартыўнай мовай, "гуляючы трэнер", таму што выконвае загалоўную ролю Снегавіка. З задавальненнем ёй складаюць кампанію і іншыя майстры сцэны: **Ірына Камышава**, **Сяргей Карзей**, **Аляксандр Пашкевіч**. Для маладых партнёраў па сцэне гэта сапраўдны майстар-клас.

**Шкодная "сямейка" намагаецца не проста сапсаваць людзям пераднавагодні настрой, а зрабіць так, каб Новы год наогул ніколі не надышоў.**

## Станьце часткай чараўніцтва

Падымаецца тэатральная заслона, і гледачы трапляюць у чароўны свет навагодняй казкі. Тут Дзед Мароз – калядны дух – з'яўляецца з Паўночнага полюса ў казачных санях. А яго гарэзлівая, непаслухмяная ўнучка Снягурачка прыкаціць з Паўночнага полюса на каньках. Снегавік, якога дзеці самі зляпілі, прымчыць на лыжах. Гэта і ёсць баявая "каманда" Дзеда Мароза, якая будзе змагацца са шкоднай Цётухнай Прастудай, якая напускае на дзяцей розныя хваробы зімой і летам.

Але гэтага шкодніцтва ёй здаецца недастаткова, і яна вырашае пазбавіць людзей навагодніх святаў. У гэтым Цётухне дапамагаюць яе пляменнікі – назойлівыя і ліпучыя Насмарк з Кашлем, а таксама пярэварацень Ваўкалак.

Яны з дапамогай інтрыг і падману дабіраюцца да чароўнага гадзінніка і крадуць адну са стрэлак, каб гадзіннік ніколі не паказаў надыход Новага года і дзеці не атрымалі свае падарункі. Але Дзед Мароз з надзейнымі памочнікамі не дазволяць "сямейцы" Цётухны Прастуды здзейсніць шкодны намер. Мюзікл, як і належыць, напоўнены музыкай, спевамі і танцамі, а юныя гледачы непасрэдна ўдзельнічаюць у сцэнічным дзействе.

## Прыходзьце сям'ёй

Першы паказ спектакля "Цётухна прастуда і чароўнае люстэрка" будзе дабрачынны. Яго ладзяць 19 снежня ў 10:30. Потым дзяцей чакае навагодні ранішнік.

Вы зацікавіліся, нашы юныя сябры? Тады бярыце з сабой бацькоў і прыходзьце ў тэатр, таму што "Цётухна Прастуда" якраз і пастаўленая да Новага года, таму найлепш зладзіць сямейны прагляд.

Сачыце за нашай афішай і прыходзьце ў госці да казкі!

**Аляксандр ПЫЦЬКО,**
**кіраўнік літаратурнай часткі тэатра.**

ЮБІЛЕЙ

# Паўстагоддзе трэнерам

**МАЛАДЗЕЧНА. 12 снежня 75-гадовы юбілей адзначае вядомы футбольны трэнер Анатоль Бераснеў.**



Анатоль Бераснеў нарадзіўся ў Бранску. У Беларусь трапіў у 1961 годзе. Так атрымалася, што Анатоль Філіпавіч трапіў у першы набор студэнтаў на спартыўны факультэт, затым, па запрашэнні **Арнольда Бохана**, – у Маладзечна. Тут і працаваў з 1965 года.

– Анатоль Філіпавіч ледзьве ні адзіны чалавек у нашай спартыўнай школе, у якога агульны працоўны стаж 48 гадоў, – распавядае Віктар Дзмітрачкоў, дырэктар ДЮСШ-4.

Анатоль Філіпавіч выхаваў такіх вядомых футбалістаў, як **Канстанцін Харламаў, Валеры Паўлоўскі, Віталь Казяк, Мікалай Абрамовіч, Андрэй Мілеўскі** і шмат-шмат тых, чые імёны добра вядомыя ў футбольным асяроддзі.

– Што я магу сказаць пра Анатоля Бераснева? – пытаецца Віктар Дзмітрачкоў. – Больш сумленнага і адказнага чалавека я не ведаю. У пачатку сваёй кар'еры я шмат сачыў за працай майго старэйшага калегі. І магу прызнацца, што ён мяне навучыў самаму галоўнаму – любіць і паважаць футбол.

**Наталля ТУР.**

КОНКУРС

# Сані для навагодзіка

**МАЛАДЗЕЧНА. Конкурс на лепшыя казачныя навагоднія сані пачнецца ў 11 гадзін 14 снежня ў дзіцячым цэнтры "Расток". Уваход вольны.**

– У конкурсе павінна прымаць удзел уся сям'я ў адным вобразе, – адзначаюць у цэнтры.

Сустракаць удзельнікаў і гасцей будуць снегавікі. Далей чакае тэатралізаваная праграма і парад саней. Можна будзе пабачыць і дзве падрыхтаваныя выставы.

## Ад 18-га – навагоднія ранішнікі

Ад 18 снежня ў цэнтры пачнуць праводзіць навагоднія ранішнікі.

Першыя два – дабрачынныя, для дзяцей-сірот і дзяцей з неспрыяльных сямей. Астатнія – для ўсіх ахвотных, але трэба будзе паклапаціцца пра білеты.

**Настасся РОЎДА.**

**СТАНДАРТЫ**

# Што трэба ведаць пра тэхнічны рэгламент Мытнага Саюза

**МАЛАДЗЕЧНА. Патрабаванні і правілы доступу прадукцыі лёгкай прамысловасці на рынак краін Мытнага Саюза, у тым ліку Беларусі, устаноўлены ў тэхнічным рэгламенце Мытнага Саюза “Аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці”, які ўступіў у сілу ад 1 ліпеня 2012 года. Ён дзейнічае ўжо больш за год.**

Гэты тэхнічны рэгламент распрацаваны з мэтай ўстанаўлення адзіных, абавязковых для прымянення і выканання патрабаванняў да прадукцыі лёгкай прамысловасці, што выпускаецца ў абарачэнне на адзінай мытнай тэрыторыі Мытнага Саюза (Казахстан, Беларусь, Расія).

**Да прадукцыі лёгкай прамысловасці адносяцца**:

- матэрыялы тэкстыльныя,
- адзенне і вырабы швейныя і трыкатажныя,
- пакрыцці і вырабы дывановыя машыннага спосабу вытворчасці,
- вырабы скургалантарэйныя,
- тэкстыльна-галантарэйныя,
- лямец,
- фетр і нятканыя матэрыялы,
- абутак,
- футра і футравыя вырабы,
- скура і скураныя вырабы,
- скура штучная.

**Назва дакумента: тэхнічны рэгламент (ТР) Мытнага Саюза 017/2011 “Аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці”**

Прадукцыя лёгкай прамысловасці выпускаецца ў абарачэнне на адзінай мытнай тэрыторыі пры ўмове яе адпаведнасці гэтаму тэхнічнаму рэгламенту і пры ўмове, што яна прайшла пацвярджэнне адпаведнасці, згодна з арт. 11 ТР у форме дэкларавання адпаведнасці або сертыфікацыі з маркіроўкай адзіным знакам звароту Еўразійскага Саюза. Адзіны знак абарачэння прадукцыі на рынку дзяржаў-удзельніц Мытнага саюза можа наносіцца на ўпакоўку, укладыш, ярлык ці прыводзіцца ў дакументах, якія прыкладаюцца да прадукцыі

Акрамя таго, **маркіроўка** на такой прадукцыі павінна быць поўнай і дакладнай (арт.9 ТР МС), утрымліваць наступную абавязковую інфармацыю:

- Найменне прадукцыі;
- Назва краіны-вытворцы;
- Назва вытворцы, або прадаўца ці ўпаўнаважанай вытворцам асобы;
- Юрыдычны адрас вытворцы, або прадаўца ці ўпаўнаважанага вытворцам асобы;
- Памер вырабу;
- Склад сыравіны;
- Таварны знак ( пры наяўнасці);
- Адзіны знак абарачэння прадукцыі на рынку дзяржаў - удзельніц Мытнага саюза;
- Гарантыйныя абавязацельствы вытворцы (пры неабходнасці);
- Дату вырабу;
- Нумар партыі прадукцыі ( пры неабходнасці).

У залежнасці ад выгляду і прызначэння прадукцыі лёгкай прамысловасці маркіроўка павінна ўтрымліваць і дадатковую інфармацыю. Маркіроўка павінна быць прадстаўлена таксама на беларускай мове ці рускай.

Спосабы пацвярджэння бяспекі і якасці тавараў, на якія распаўсюджваюцца тэхнічныя рэгламенты Мытнага Саюза, пры іх рэалізацыі ў рознічных гандлёвых аб’ектах і на гандлёвых месцах на рынках, устаноўленыя ў сумеснай пастанове Мінгандлю, Мінсельгасхарчу, Міністэрства аховы здароўя і Дзяржстандарту ад 2013/06/21 г. №9/26/ 50/32.

Прадукцыя, якая не падлягае абавязковаму пацвярджэнню адпаведнасці да ўступлення ў сілу ТР МС, выробленая ў рэспубліцы або ўвезеная да 1.01.13 г., можа рэалізоўвацца на тэрыторыі РБ з улікам тэрмінаў прыдатнасці (службы) прадукцыі без правядзення абавязковага пацвярджэння адпаведнасці. Дзеянне раней выдадзеных сертыфікатаў і прынятых дэкларацый на прадукцыю дадзенай групы захоўваецца да 1 ліпеня 2014.

## Як пацвердзіць якасць

Юрыдычныя асобы і ІП пацвярджаюць якасць і бяспеку тавараў адным з наступных спосабаў:

- Арыгіналамі альбо копіямі сертыфікатаў адпаведнікаў або дэкларацый аб адпаведнасці прадукцыі патрабаванням ТР МС;
- Арыгіналамі альбо копіямі сертыфікатаў адпаведнікаў або дэкларацый аб адпаведнасці адзінай формы ТС на тавары, уключаныя ў Адзіны пералік прадукцыі, якая падлягае абавязковай ацэнцы (пацвярджэнню) адпаведнасці ў рамках ТС з выдачай адзіных дакументаў, на працягу перыяду, вызначанага рашэннем аб прыняцці ТР МС;
- Наяўнасць на таварах і (або) іх спажывецкай тары выявы адзінага знака абарачэння прадукцыі на рынку дзяржаў-удзельніц МС (“ЕАС”);
- Указанне звестак аб сертыфікаце або дэкларацыі ў суправаджальнай дакументацыі. Акрамя пералічаных вышэй спосабаў, ІП-плацельшчыкі адзінага падатку дадаткова могуць выкарыстоўваць:
- Нацыянальныя сертыфікаты адпаведнасці (дэкларацыі аб адпаведнасці) дзяржаў-удзельніц МС або іх копіі;
- Наяўнасць на таварах і (або) спажывецкай тары нацыянальных знакаў адпаведнасці дзяржаў-удзельніц МС;
- Указанне ў суправаджальных дакументах, якія пацвярджаюць набыццё тавараў, рэгістрацыйнага нумара сертыфіката (дэкларацыі), тэрміну яго дзеяння, назвы і адрасы органа па сертыфікацыі, які выдаў або які зарэгістраваў адпаведныя дакументы;
- Наяўнасць інфармацыі з Адзінага рэестра выдадзеных сертыфікатаў і зарэгістраваных дэкларацый аб адпаведнасці МС аб сертыфікаце (дэкларацыі) на такія ж тавары тых жа вытворцаў.

**У цяперашні час па заданнях Дзяржстандарту праводзяцца маніторынгі і пазапланавыя праверкі на гандлёвых аб’ектах па выкананні патрабаванняў ТР МС і сумеснай пастановы.**

Пры правядзенні маніторынгаў правяраецца наяўнасць дакументаў і звестак, якія пацвярджаюць бяспеку і якасць тавараў, якія рэалізуюцца. Маніторынг з’яўляецца адной з формаў наглядных мерапрыемстваў. Па выніках маніторынгу афармляецца інфармацыйная запіска і могуць быць выдадзеныя рэкамендацыі па ліквідацыі выяўленых парушэнняў ў пэўны тэрмін.

Гэта не мае на ўвазе прымянення якіх-небудзь санкцый. У разе неліквідацыі парушэнняў наглядны орган мае права ўжыць прадугледжаныя заканадаўствам меры адказнасці.

**Таіса ПЯТРОВА,**
**намеснік начальніка Інспекцыі Дзяржстандарту па Мінскай вобласці.**

ГІСТОРЫЯ

# Як кайзер Вільгельм II прыязджаў на Смаргоншчыну

**СМАРГОНЬ. Шляхі многіх вядомых людзей і каранаваных замежных асоб пралягалі ў свой час праз наш край.**

Хто б гэта ні быў, рускі цар Аляксей Міхайлавіч ці польскі кароль Станіслаў Ляшчынскі, кароль Швецыі Карл XII ці французскі імператар Напалеон, факт знаходжання гэтых знакамітых асоб заўсёды прыпадаў на гады ваенных ліхалеццяў і цяжкіх выпрабаванняў для родных мясцін і месцічаў.

Толькі з цягам часу, праз многія дзесяцігоддзі, гэта падзея знаходзіла адпаведнае адлюстраванне ў літаратуры, станавілася чарговым фактам гісторыі Смаргоншчыны.

## Мясцовыя ўбачылі фота амаль праз 100 год

Не выключэннем стаў аднадзённы візіт у 1917 годзе нямецкага імператара Вільгельма II у наш край. Толькі ў час Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, якая прайшла 18-19 мая 2007 года ў Смаргоні, краязнаўцы ўпершыню змаглі пабачыць некалькі фотаздымкаў з той мінулай падзеі Першай сусветнай вайны.

Потым былі знаходкі новых здымкаў і арыгінальных пісьмовых звестак з іншых нямецкіх крыніц, па якіх сёння можна прасачыць дадзеную неардынарную падзею.

## Дзякаваў сваім салдатам

29 ліпеня 1917 года нямецкі тыл ад Смаргоні да Крэва зведаў вялікае напружанне ў сувязі з прыбыццём на Смаргоншчыну з Усходняй Галічыны па чыгунцы на асабістым цягніку германскага імператара Вільгельма II.

На працягу ўсяго дня кайзер выказваў удзячнасць салдатам і афіцэрам 11-й, 16-й ландверскім і 226-й пяхотнай дывізіям, якія прынялі ўдзел у абарончых баях з 19 па 26 ліпеня на гэтым участку фронту.

Нямецкая "Газета 10 Арміі", што выходзіла ў Вільні, аператыўна, праз дзень, 31 ліпеня надрукавала афіцыйнае паведамленне аб гэтай падзеі на фронце. З размешчанай на першай старонцы інфармацыі стала вядома, што кайзер "правёў агляд пераможцаў абарончых баёў на пазіцыях Смаргонь-Крэва, якія адбілі ў геройскім супрацьстаянні моцныя рускія масы войск". Яго Вялікасць выказаў удзячнасць падраздзяленням за іх цягавітасць і смеласць, з якой яны баранілі свае займаемыя пазіцыі.

Асабліва ён адзначыў Другі ландверскі памеранскі полк, стаўшы з гэтага дня яго "патронам", прадставіў смелай воінскай часці каралеўскі подпіс і найменне "Ландверскі пяхотны полк імя Вільгельма II №2". Камандзір палка падпалкоўнік Бальке быў узнагароджаны ордэнам "За заслугі", а многія з байцоў атрымалі жалезныя крыжы з рук іх імператара.

## Войска цара было прасякнутае здрадай

Сёння можна канстатаваць, што правал наступальнай аперацыі рускай арміі ў 19-26 ліпеня 1917 года быў у першую чаргу звязаны з самім царскім войскам. У ім пасля лютаўскай рэвалюцыі панавала безладдзе, моцныя антываенныя настроі, войска было проста прасякнутае здрадай. Камандуючы рускім 38-м армейскім корпусам генерал-лейтэнант Іосіф Доўбар-Мусніцкі ва ўспамінах адзначаў, што "немцы ведалі аб усім, што адбывалася ў нас". Пацвердзіў гэта генерал Гофман: "Мой загад да корпусу, скіраваны супраць немцаў, стаў яму вядомым таго ж дня. І гэта міма падвойнага калючага дроту, які аддзяляў нас ад немцаў".

## Саксонскі кронпрынц, генералітэт і кайзер ля Солаў

Улічваючы ваенны час і закрытасць часткі інфармацыі, да чытачоў газетнага выдання 10-й нямецкай арміі не дайшла цікавая для нас інфармацыя аб тым, што сустрэча кайзера з войскам і наступны парад адбыліся на пляцы каля вёскі Асіпаны, побач з Соламі. Разам з кайзерам браў удзел у мерапрыемстве саксонскі кронпрынц Георг і вышэйшы генералітэт фронту.

Трэба адзначыць яшчэ адну публікацыю, якая была размешчаная ў 79-м нумары дадатку да гэтай армейскай газеты 11 кастрычніка 1917 года. Наведванне імператарам войск Эйхгорна праілюстравана на газетных старонках асобнымі фотаздымкамі, якія былі зроблены пад Асіпанамі.

У тры гадзіны дня Вільгельм II наведаў 16-ю ладверскую дывізію каля яе штаба ў вёсцы Скірдзімы, побач з Крэвам. Вайсковая дэпутацыя выстраілася на палявым пляцы паміж вёскамі Чаркасы і Скірдзімы. Пасля кароткай прамовы да ўсіх прысутных імператар уручыў жалезныя крыжы асобным салдатам і афіцэрам. Як і ў папярэднім месцы, тут адбыўся парад нямецкіх вайскоўцаў перад кайзерам.

Не абышлося без трэцяга параду і на самой чыгуначнай станцыі Солы-Усход.



Кайзер у Асіпанах (злева).



Праход кайзера перад строем на станцыі Солы-Усход.

**Важны ў стратэгічным плане раз'езд 12 на Лібава-Роменскай чыгунцы ў гады Першай сусветнай вайны набыў новую назву Солы-Усход і сёння вядомы як станцыя Солы.**

У гады Першай сусветнай вайны тут быў створаны адзін з наймагутных камунікацыйных вузлоў на гэтым участку фронту. Станцыя становіцца перагрузачнай з шырокай на вузкую каляю, на ёй будуецца нямецкае паравознае дэпо вузкай калеі, шматлікія вайсковыя склады.

Вакол станцыйнага драўлянага будынка ўзнік нямецкі салдацкі гарадок са сваім клубам і казіно, бібліятэкай і сталоўкай, дамамі адпачынку і крамамі. Каля ганка сольскай станцыі Вільгельм II у гэты дзень правёў агляд вызначаных вайсковых фарміраванняў, якія потым пад гукі аркестра прайшлі маршавым строем перад каранаванай асобай.

## Удалае фота кайзера набыло колер

Апошнім часам шмат якія старыя чорна-белыя фотаздымкі набываюць каляровы выгляд. Так атрымалася з некалькімі здымкамі нямецкага імператара ў інтэрнэце. Асабліва сярод іх трэба вылучыць фота, дзе Вільгельм II у вайсковым строі з усімі рэгаліямі, з каларытнымі акулярамі на пікельхельме (шлем з пікай) зафіксаваны ў час ванні вайсковага парада.

**Тагачасны фотамайстар удала выбраў ракурс здымка, пры якім адразу не заўважаецца фізічны хіб кайзера, у якога левая рука была на 15 сантыметраў карацейшая за правую.**

## Праз год кайзер адмовіцца ад улады

Цікавасць гэтага старога фота яшчэ ў тым, што яно было зробленае на смаргонскай зямлі каля вёскі Асіпаны напрыканцы ліпеня 1917 года. На наступны год скончыцца вайна, у лістападзе 1918 года кайзер адмовіцца ад улады, пакіне назаўсёды Германію і да сваёй смерці ў 1941 годзе пражыве ў выгнанні за яе межамі.

## Кайзер прыбыў, каб бачыць нашу катастрофу

Зусім іншая атмасфера назіралася ў рускім войску ў першыя дні прыходу кайзераўцаў на Ашмяншчыну ў верасні 1915 года. Камандзір лейбгвардыі Фінляндскага палка генерал П. Клодт у асабістых успамінах пра Віленскую аперацыю 1915 года адзначаў: "Не разумеючы таго крытычнага становішча, у якім мы апынуліся і не раз бывалі, мы захавалі спакой духу. Не ведалі мы, што немцы лічылі палон рускай гвардыі фактам, які амаль адбыўся, што былі, быццам, гатовыя цягнікі для перавозкі яе па Нямеччыне, што імператар Вільгельм II прыбыў у Коўна, каб прысутнічаць пры нашай катастрофе".

Але салдаты рускай арміі выстаялі. Руская гвардыя мужна адбіла ўсе атакі немцаў і тым самым выканала загад цара: "Ні кроку назад!" Наступленне немцаў было спыненае і ні пра якія парады ў гонар кайзера на Ашмяншчыне ў 1915 годзе не магло быць размовы.

**Уладзімір ПРЫХАЧ,**
**Смаргоншчына.**
**Фота забяспечана аўтарам.**

КАЛЯНДАР

**14 снежня.** Нарадзіўся Мікалай Кандрацьеў (1925 – 2000), беларускі скульптар. Аўтар помніка Мікалаю Валынцу ў Маладзечне, мемарыяла "Загінуўшых чакаючь вечна" ў вёсцы Доры Валожынскага раёна, графічнага цыкла "Духоўнасць, Адраджэнне – храмы праваслаўныя і каталіцкія" і шмат усяго іншага. Сярод манументальных работ і скульптурны цыкл "Смутак людскі" на Паўночных могілках у Мінску.

***

**95 гадоў** з дня нараджэння Барыса Нікольскага (1918 – 2001), беларускага спевака, заслужанага артыста Беларусі.

***

**16 снежня.** 110 гадоў з дня нараджэння Івана Ахрэмчыка (1903 – 1971), жывапісца, народнага мастака Беларусі. Скончыў Вышэйшы мастацка-тэхнічны інстытут у Маскве. Працаваў загадчыкам кафедры жывапісу ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Працаваў у галіне партрэта, тэматычнай карціны, пейзажа, манументальнага мастацтва. Адна з яго лепшых работ – "Абаронцы Брэсцкай крэпасці".

***

**75 гадоў** з дня нараджэння Эдуарда Агуновіча (1938), мастака, заслужанага работніка культуры Беларусі. Сапраўдную славу яму прынесла афармленне экспазіцый музеяў самага рознага ўзроўню і профілю – музей Янкі Купалы ў Мінску і яго філіялы, літаратурны музей Максіма Багдановіча, Дом-музей Першага з'езда РСДРП, інш.

***

**17 снежня.** 115 гадоў з дня нараджэння Мікалая Аляксеева (1898 – 1985), беларускага пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

***

**105 гадоў** з дня нараджэння Мікалая Тарасікава (1908 – 1965), беларускага жывапісца, графіка. Быў ён яшчэ таленавітым экслібрыстам, які стаяў у адным шэрагу з такімі майстрамі кніжнага знака, як "аксакалы" Я.Красоўскі, А.Тычына, П.Гуткоўскі, Я.Мінін, С.Юдовін, А.Грубэ, Г.Змудзінскі... Самае цікавае, што Мікалай Тарасікаў рабіў экслібрысы толькі для тых людзей, каго добра ведаў, любіў і цаніў, – пераважна гэта былі беларускія літаратары і мастакі.

***

**45 гадоў** з дня ўводу (1968) у эксплуатацыю школы санаторнага тыпу, лячэбнага корпуса і першай чаргі комплексу піянерскага лагера "Зубраня" на возеры Нарач Мядзельскага раёна.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

■ ЭКАЛОГІЯ

# Куды выкінуць батарэйкі: адрасы па рэгіёне




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

У Мядзеле кантэйнер устаноўлены ля ўвахода ва ўнівермаг.

**РЭГІЁН. Выкідаць батарэйкі ў сметніцу небяспечна. Іх шкодныя рэчывы трапляюць у зямлю, грунтавыя воды, а потым – да нас у арганізм.**

Пра гэта ў пазамінулым нумары газеты (№48 ад 29 лістапада) распавёў дырэктар Цэнтра экалагічных рашэнняў **Андрэй Лабанаў**.

Тады мы прыводзілі адрасы ўсіх месцаў для выкідання батарэек у Маладзечне. Цяпер дадаём інфармацыю па рэгіёне.

### Вілейка

У Вілейцы спецыяльныя кантэйнеры для збору выкарыстаных батарэек устаноўленыя ў магазіне "Гаспадарчыя тавары" па вуліцы Савецкай, у прымерачнай на мінірынку КУП "Садружнасць". У Вілейскім прафесійна-тэхнічным каледжы самі зрабілі такія кантэйнеры і ўстанавілі ў інтэрнатах, паведаміў галоўны спецыяліст Вілейскай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Мікалай Сабалеўскі**.

Вялікую працу па ўстаноўцы міні-кантэйнераў для выкарыстаных батарэек правяла мясцовая жыллёва-камунальная гаспадарка. Забяспечылі імі ўнівермаг УП "Меркурый-цэнтр" і мэблевы магазін па вуліцы Вадап'янава, а таксама два прадуктовыя магазіны УП "Рамонак": ля плошчы Свабоды і "Тапалёк" па вуліцы Кастрычніцкай.

Таксама падобныя ёмістасці ўстаноўленыя ў фае райвыканкама, гасцініцы "Вілія", адміністрацыйным корпусе ЖКГ па вул. Чырвонаармейскай, 84, ЖРЭУ-1 (па вуліцы Горкага,14), ЖРЭУ-2 (па вуліцы Гагарына, 27), на ўчастку цеплавой вытворчасці (вул. Камсамольская,18-а).

А нядаўна перадалі міні-кантэйнеры для ўстаноўкі ў людных месцах на чатыры ўчасткі: у Даўгінаве, Людвінове, Ільі, Любані. Пра ўсё гэта расказала інжынер па ахове навакольнага асяроддзя (эколаг) ЖКГ **Алена Шаманюк**.

– Гляджу і па нашым адміністрацыйным будынку, і па ўнівермагу, што людзі кідаюць выкарыстаныя батарэйкі ў кантэйнеры. Разумеюць, што гэта лепш, чым выкідаць іх у сметніцу, – кажа яна. – Нам нават тэлефанаваў пажылы чалавек, якому цяжка хадзіць. Пытаўся, як ён можа здаць батарэйкі. Сказалі, што калі назбірае трохі, то дапаможам: супрацоўнікі ЖКГ завітаюць да яго, забяруць.

### Мядзел

У райцэнтры выкарыстаныя батарэйкі можна выкінуць ў кантэйнер, які ўстаноўлены на першым паверсе ўнівермага на плошчы Шаранговіча. Таксама кантэйнер устаноўлены ў прамтаварным магазіне ў вёсцы Нарач (Кабыльнік) па вуліцы Піянерскай, 6.

### Валожын

Ва ўнівермагу (плошча Свабоды, 5)

### Астравец

У будынку ЖКГ (вул. Карла Маркса, 45)

### Ашмяны

Ва ўнівермагу (вул. Савецкая, 100)

### Смаргонь

У краме "Сола" (вул. Савецкая, 9-б), краме "Стыль" (вул. Леніна, 3), краме "Сёмы кантынент" (вул. Заводская), краме "Мазаіка" (вул. Заходняя, 34-б).

**Алесь ВЫСОЦКІ, Настасся РОЎДА.**

## За пяць выкарыстаных батарэек – адну новую. Чаму не?

*Прачытаў артыкул пра адпрацаваныя батарэйкі – куды можна выкідваць, а куды нельга. У мяне ёсць меркаванне на гэту праблему. Правільна было б, каб людзей заахвочвалі да збору адпрацаваных батарэек. Напрыклад, за пяць выкарыстаных батарэек даваць адну–дзве новыя. Гэта зацікавіць людзей несці адпрацаваныя батарэйкі ў спецыяльныя кантэйнеры.*

*Я неяк у двары каля смецЦевага кантэйнера заўважыў кінутыя на зямлю батарэйкі. Налічыў адзінаццаць штук. Колькі тут прайсці да ўнівермага ад нашага двара – плошчу перайсці. А калі чалавек жыве далёка ад месца ўстаноўкі кантэйнера для батарэек, то наўрад ці пойдзе: "Панясу я некуды батарэйкі за так. Лепш выкіну ў першую сметніцу".*

*Тут можна ўспомніць словы вядомага старшыні калгаса Уладзіміра Калачыка аб тым, што за карысную справу павінны выдавацца бонусы. Дык вось, калі збор адпрацаваных батарэек – карысная справа, то за яе таксама павінны быць бонусы.*

**Міхаіл Бабічаў, Маладзечна.**

■ АБМЯРКУЕМ

# У Івянцы чакаюць дыскатэку да 4 раніцы

**ВАЛОЖЫН. Паводле рашэння, прынятага ў кастрычніку на раённай сесіі Савета дэпутатаў, дыскатэкі для дарослых праводзяцца толькі да апоўначы.**

На думку кіраўнікоў вясковых Дамоў культуры, такое рашэнне можа мець негатыўныя наступствы: моладзь усё адно збіраецца, але перашкаджаючы іншым.

Сітуацыю патлумачыў дырэктар Дома культуры ў мястэчку Івянец **Станіслаў Бурачэўскі:**

– Атрымалася, што і ў нас, і ў Стоўбцах скарацілі дыскатэкі. Але ж у гэты час ходзяць на іх не дзеці, дзіцячая дыскатэка доўжыцца з 18 да 21.30. Потым пачынаецца дыскатэка для дарослых. І калі цяпер заканчваем апоўначы, моладзь усё роўна хоча яшчэ пагуляць. Яна збіраецца на плошчы, гучна ўключае музыку і перашкаджае іншым спаць, можа спажываць і спіртныя напоі. А тут хай сабе даўжэй, затое пад прыглядам, у нас ёсць відэаназіранне. Звычайна дыскатэкі працягваліся да чатырох раніцы. Падкрэсліваю, гэта дыскатэка для дарослых людзей, якім за 18 год. Да нас прыходзяць нават тыя, каму па 40-50 год. Ім зручна адпачыць ноччу. Збіралася столькі ахвотных, што памяшканне ўсіх іх не змяшчала. Цяпер жа да 23 гадзін яны збяруцца, а праз гадзіну ўжо і дадому ісці трэба.

### Небяспечна, калі няма чаго рабіць

Дырэктар Дома культуры патлумачыў, чаму яго непакоіць пытанне абмежавання часу дыскатэкі:

– Моладзь альтэрнатыву знойдзе, але нефармальныя зборышчы могуць мець негатыўны бок, аж но да росту злачынстваў. Трэба, каб была свая пляцоўка. А дзе цяпер людзі? У нас збіраецца чалавек 30, ну што гэта для пяцітысячнага мястэчка? Дыскатэкі – асноўны від нашай дзейнасці, які прыносіць прыбытак. Нядаўна з'ездзіў паглядзець дыскатэку ў адной з вёсак Стаўбцоўшчыны. Увівіце, працаваў віджэй, кантралёр, касір, гардэробшчык, і гэта ў вёсцы. Усё так пры стойна, ніякіх "разборак па раёнах". Чаму не? Для чаго не дазваляць дыскатэкі?

**У раённым Савеце дэпутатаў "РГ" паведамілі, што такая пастанова мае рэкамендацыйны характар.**

### Улада дапамагла аздобіць клуб

Станіслаў Бурачэўскі адзначае, што сёлета раённыя ўлады вельмі значна дапамаглі Дому культуры. На выдзеленую суму ў 250 мільёнаў рублёў установа аздобіла сцэну, закупіла добрую гукавую і светлавую апаратуру.

– Для нас гэтая сума ўнушальная. А вы ведаеце, як важна, каб Дом культуры быў гатовы прымаць гасцей: як толькі добрае свята ці канцэрт, мабілізуюцца жыхары навакольных вёсак, усім жа хочацца адпачыць.

Калектывы Дома культуры часта ўдзельнічаюць у разнастайных міжнародных праектах, удзельнічалі ў абласным фестывалі нацыянальных культур.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

■ НОВЫ ГОД

# Вызначаць лепшых Дзядоў Марозаў і Снягурак

**ВІЛЕЙКА. На цэнтральнай плошчы горада 29 снежня адбудзецца штогадовы злёт Дзядоў Марозаў і Снягурак, паведаміла дырэктар Палаца культуры Алеся Высоцкая.**

Дзяды Марозы і Снягуркі пройдуць ад Палаца культуры вакол цэнтральнай плошчы да ёлкі. Там паспаборнічаюць у наступных конкурсах: "Навагодняе віншаванне", "Самая доўгая барада і самыя вялікія валёнкі", "Навагоднія загадкі", "Лепшае выкананне песні пра ёлачку" і "Самы доўгі карагод". Лепшых вызначаць па апладысментах гледачоў.



Архіў "РГ".

Свята набліжаецца!

Потым навагоднія персанажы запаляць агеньчыкі на галоўнай ёлцы горада.

Будзе працаваць рэзідэнцыя Дзеда Мароза і Снягуркі. Дзеці могуць прыносіць туды лісты да Дзеда Мароза: аўтара лепшага з іх узнагародзяць пасля навагодніх святаў.

Пачатак злёту запланаваны на 14 гадзін.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ – НЕ

# Сіні драўляны конь – сімвал 2014 года

**Колькі б ні было табе гадоў, але падрыхтоўка да сустрэчы Новага года зараджае цябе энергіяй і прыносіць нейкія новыя пачуцці. Уключайцеся ў казку, іграйце новыя ролі, стварайце сабе настрой, і вы будзе бязмерна шчаслівыя.**



Фота haydisendedestekol.org.

Да нас імчыцца сіні конь. Сустракаем!

Сімвалам 2014 года будзе Конь – сіні драўляны Конь. Асноўныя колеры года – сіні і зялёны. Конь надзелены аптымізмам, жыццярадаснасцю, любіць забавы і прастор.

Уступіць у свае правы год Каня 31 студзеня 2014 года, з наступленнем Поўні.

Першае, што трэба зрабіць перад Новым годам, – гэта правесці генеральную ўборку. Асабліва паклапаціцеся пра тое, каб не працякалі краны, бо разам з вадой будзе “выцякаць” і ваш дабрабыт. Так як стыхіяй года будзе дрэва, добра было б расставіць па жыллі драўляныя статуэткі, сувеніры.

А яшчэ купіце падкову і ўпрыгожце ёю ўваходныя дзверы дома – гэта на ўдачу. Сімвалам спакою паслужаць званочкі, прымацуйце іх дзе-небудзь.

## Характар людзей, народжаных у год Каня

Гэты год прынясе ўдачу тым, хто нарадзіўся ў 1942, 1954, 1966, 1978, 1990, 2002 гадах. Такія людзі маюць стальны стрыжань у сваім характары. Энергетыка гэтых людзей вельмі моцная, яны не любяць адзіноты і часта знаходзяць “аддушыну” ў рабоце.

Незвычайная працавітасць і ўпартасць дапамагаюць ім быць заўсёды пры грашах. Яны ніколі не маюць даўгоў. У дзелавой сферы аддаюць перавагу разумнасці і меры. Конь аднолькава падае на ногі і ад застою, і ад празмернай язды – так і пра людзей, народжаных пад гэтым знакам.

Ёсць у іх і негатыўныя якасці, якія перашкаджаюць наладжваць адносіны з навакольнымі, – гэта запальчывасць і катэгарычнасць. А яшчэ жорсткасць і сваявольства.

Людзі, якім пашчасціла нарадзіцца менавіта ў год Сіняга драўлянага Каня, пазбаўленыя ўпартасці, больш адкрытыя, шчырыя, добразычлівыя. У іх няма эгаізму. Такія людзі валодаюць мяккім характарам і бяскрыўдным пачуццём гумару.

Гэта людзі з багатым уяўленнем, фантазіяй. Нестандартны тып мыслення можа ім зрабіць кар'еру ў сферы рэкламы, тэатра, мастацтва. Дадайце да гэтага далікатнае, ветлівае абыходжанне – і вось вам ідэальны вядучы, дызайнер, мастак.

У іх учэпісты розум, пра такіх людзей кажуць, што яны схопліваюць на ляту. Часта разумеюць тое, што ім хочуць сказаць, яшчэ да пачатку паведамлення.

Такія людзі калі кахаюць, то без аглядкі, калі ненавідзяць, то на ўсё жыццё. Дзеля кахання яны гатовыя пераадолець любыя жыццёвыя перашкоды. У адносінах стараюцца дамінаваць, перакладваючы адказнасць, у тым ліку і фінансавую, на сябе. Здараецца, гнуць сваю лінію без задняй думкі.

Калі кіравацца ўсходнім гараскопам, то з пункту погляду сумеснасці, Каню ідэальна падыходзяць Каза, Сабака, Тыгр і зусім не падыходзяць Пацук і Свіння. Але трэба памятаць, каб адносіны развіваліся ў любым шлюбе, трэба прыкладаць максімум намаганняў.

А яшчэ такія людзі любяць падарожнічаць, і варта адзначыць, што яны за гады свайго жыцця ўмудраюцца пабываць у шмат якіх месцах, нават недаступных па разуменні сяброў і калег. Абмяжоўваць прастору каня зусім бессэнсоўна, аднак аднастайная дзейнасць яго будзе прыгнятаць мацней, чым любы іншы знак.

## Дзе сустракаць Новы год

Сустракаць Новы год лепш за ўсё з сям'ёй і блізкай раднёй, бо Конь любіць сваю сям'ю. Так як ён па сваёй прыродзе аптымістычны, жыццярадасны, любіць прастор, забавы, то да сустрэчы і не трэба рыхтавацца неяк асабліва. Галоўнае, каб гэты дзень быў напоўнены станоўчымі эмоцыямі, смехам, весялосцю. Забудзьце пра агрэсію, дарыце людзям любоў.

Не ідзіце супраць сваіх жаданняў, адзначце гэта свята з задавальненнем, дазвольце сабе па-сапраўднаму адпачыць і адчуць задзейства, якім насычана сустрэча Новага года.

Няхай кожны імкнецца да таго, што ў большай ступені прыносіць яму радасць: пушысты снег, які іскрыцца ад узрываў феерверку, ці сустрэча з каханым чалавекам або весялосць у вялікай кампаніі – Новы год – гэта свята жыцця, яму дастаткова проста ўсміхнуцца, каб увесь год быць удачным.

## У чым сустракаць

Падыдзіце да выбару ўбору адказна, бо сустракаць Новы год трэба ў чымсьці незвычайным. Адзенне павінна быць у сіняй ці зялёнай каларыстычнай гаме, у такім колеры як і сімвал надыходзячага года. Усе адценні гэтага колеру будуць у пашане. Можна звярнуць увагу і на пастэльныя адценні, асабліва на крэмавыя і кафейныя. Сіні колер паўплывае на характар чалавека самым станоўчым чынам.

Конь – жывёла высакародная, гарманічная, менавіта гэтымі якасцямі і кіруйцеся пры выбары ўбору. А яшчэ выбірайце ўсё з натуральных тканін, бо сімвал 2014 года – сапраўднае дзіця прыроды, якое жыве з ёй у поўнай гармоніі.

Пры выбары аксесуараў аддайце перавагу дакаратыўнай заколцы, элегантнаму рэменю, вытанчанаму варыянту брошкі ці кулона. Добрым дапаўненнем акажуцца ўпрыгажэнні, асабліва з бурштыну і бірузы.

Дызайнеры раяць цяпер сукенкі А-сілуэту, мадэлі з пышнымі спаднiцамі, драпіроўкамі і складкамі. Уваходзяць у моду і сукенкі, злёгку расклёшаныя знізу. У модзе і расклёшаныя рукавы і лятучыя сілуэты.

Але перш чым купіць убор, пераканайцеся, што ў ім вы адчуваеце сябе камфортна, бо Конь не пераносіць абмежавання руху.

Але памятайце, што якім б там ні быў убор – не гэта галоўнае. Галоўнае, каб вы сустракалі Новы год у добрым настроі, сярод сваіх блізкіх ці сяброў, у атмасферы весялосці і радасці. І тады можна не сумнявацца, што год прынясе ўдачу і адкрые цудоўныя перспектывы.

## Вядомыя людзі, якія нарадзіліся ў год Каня

Уладзімір Караткевіч, аўтар “Рушнікоў” Вера Вярба, касманаўты Уладзімір Кавалёнак і Пётр Клімук, Муслім Магамаеў, Аляксандр Лукашэнка, Андрэй Саннікаў, Леанід Брэжнеў, Антоніа Вівальдзі, Рэмбрандт, Ленін, Гарысан Форд, Мікіта Хрушчоў, Фрэдэрык Шапен.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ДА СУСВЕТНАГА ДНЯ ФУТБОЛА

# Футбол – гэта як сэкс

## Дастаткова адзін раз паспрабаваць, каб спадабалася назаўсёды

**МАЛАДЗЕЧНА. 10 снежня, калі ва ўсім свеце адзначаецца Дзень футбола, мы патэлефанавалі маладзечанскім футбалістам, каб запытацца, ці ёсць у іх памятныя або проста цікавыя гісторыі, звязаныя з футболам.**




Аляксандр Любанец (уверсе злева, далей па гадзіннікавай стрэлцы), Ігар Крук, Сяргей Лавор, Юры Бугай, Віталь Казяк.

Калаж Насгасі РОЎДЫ.

**Сяргей Лавор, футбаліст каманды ДЮСШ-4:**

– Самая памятная гісторыя пра тое, як мяне ў лагеры пабілі шлёпанцам так, што я не мог сядзець некалькі дзён.

**– Прабачце, а як гэтая гісторыя звязаная з футболам?**

– Дык гэта ж у футбольным лагеры было. А як прыйшоў я ў футбол, памятаю таксама. Усё дзяцінства, цягам шасці гадоў, я займаўся танцамі. У класе пятым не здаў іспыты, канешне трохі перажываў. А потым напрасіўся з маім суседам Мікітам Харко на трэніроўку па футболе. Вось так і застаўся тут. А шчыра кажучы, футбол – гэта як сэкс, дастаткова адзін раз паспрабаваць, каб спадабалася назаўсёды.

**Ігар Крук, суддзя нацыянальнай катэгорыі:**

– Першы ўспамін з футболам звязаны з самым дзяцінствам, калі мама прывяла мяне за руку на стадыён. Я памятаю, як нас было шмат дзяцей, на каманды чатыры хапіла б, і трэнер нікога не адсейваў. Як ён з намі змагаўся, не ўяўляю! А яшчэ адна гісторыя была, калі я ўжо быў суддзёй. Каманда ў матчы забіла гол, і футбалісты пабеглі да фанацкага сектара адзначаць гэты гол. Тут з супрацьлеглай трыбуны на поле сталі выбягаць заўзятары другой каманды. Выбягаюць яны на поле і нясуцца дакладна на мяне. Прызнаюся, я тады спалохаўся. Я адзін на полі, а тут чалавек 20 пруць. А яны дабеглі да мяне, збочылі і рушылі да той каманды, што святкавала гол. Пачалася бойка. А я стаю, разумею, што нешта трэба рабіць, але радуюся, што я жывы.

**Аляксандр Любанец, дырэктар каманды "Маладзечна-2013":**

– Я магу прыгадаць толькі выпадак, які здарыўся з маім сябрам, ён – доктар адной са сталічных футбольных камандаў. Дык вось: паспрачаўся мой сябар, што прынясе на стадыён бутэльку гарэлкі. Стаў перад уваходам, выпіў усю і пайшоў на стадыён. А ўжо адтуль крычыць: "Гарэлка ўва мне, я на стадыёне, значыць, і гарэлка таксама на стадыёне". Прыйшлося залічыць яму перамогу.

**Юры Бугай, футбаліст:**

– Мая футбольная гісторыя памятная ў тым, што я ў дзень свайго нараджэння, другога жніўня, упершыню выйшаў гуляць за каманду Смаргоні супраць каманды БАТЭ. Ці чакалі мяне сябры за варотамі з тортам, не памятаю, але павінны былі чакаць.

**Віталь Казяк, трэнер дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы:**

– Футбол – гэта маё жыццё, канешне, шмат гісторый. Узгадваю, як трапіў у футбол. Мая мама была катэгарычная супраць таго, каб я стаў футбалістам. А каб залічылі ў секцыю, неабходна была заява, падпісаная бацькамі. Мама, зразумела, і не думала, падпісваць. І тут яна кладзецца ў бальніцу. Я разам з дзённікам даў на подпіс заяву бацьку. Ён падпісаў, нават не прачытаўшы. Мама, калі выйшла з бальніцы, усыпала і мне, і тату па першае чысло, але ходу назад для мяне ўжо не было. Так я стаў трэніравацца ў легендарнага нашага трэнера **Анатоля Бераснева**. Ён адНойчы, каб мы выйгралі, пайшоў на такую хітрасць. Мы, яшчэ падлеткі, гулялі з камандай дарослых мужыкоў, вядома, прайгравалі. Тады трэнер пачаў выпускаць на поле па адным дадатковым гульцу. У выніку, мы абыгралі каманду-саперніцу ў складзе 15 гульцоў.

І яшчэ адна гісторыя звязаная з тым перыядам, калі каманда "Маладзечна" гуляла ўжо ў вышэйшай лізе. У нас быў аўтобус "Ікарус", але рухавік на ім стаяў ад трактара. Ехаў ён не болей за 60 кіламетраў у гадзіну. А пад гару не ехаў зусім. І мы, прыгожыя, маладыя хлопцы ў аднолькавых спартыўных касцюмах, выходзілі на трасу і пхалі аўтобус пад гару. Кіроўцы, што праязджалі міма, сігналілі і вельмі весяліліся: "Во, Маладзечна на спаборніцтвы едзе!"



Наталля ТУР.
E-mail: turenok_08@mail.ru

НАВІНЫ

### Стартаваў чэмпіянат раёна па міні-футболе

**МЯДЗЕЛ**. Як і летась, у ім удзельнічаюць 14 камандаў.

Дзве каманды, якія вырашылі не ўдзельнічаць у чэмпіянаце, замянілі "Юніёр" з Мядзела і з Пастаў. Пастаўчане будуць гуляць па-за конкурсам.

Матчы праходзяць па аўторках і суботах. Першыя матчы адбыліся 3 снежня. Супрацоўнікі РАУС перамаглі каманду райваенкамата 5:3, гульцы з Пастаў прайгралі камандзе НДЦ "Зубраня" 4:6, супрацоўнікі ЖКГ саступілі прадстаўнікам прадпрыемства меліярацыйных сістэм 0:5.

Суботнія матчы прынеслі наступныя вынікі: аддзел адукацыі, спорту і турызму – індывідуальныя прадпрымальнікі 6:4, райаддзел на надзвычайных сітуацыях – СДЮШАР 5:1, Нарацкі сельсавет – Крывіцкі сельсавет 9:3, "Юніёр" – Мядзел 2:5.

– Узровень гульні у параўнанні з мінулым годам вырас, – расказаў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў**.

### Шашкі, шахматы і гіра

**МЯДЗЕЛ**. У райцэнтры 8 снежня прайшлі тры чэмпіянаты раёна.

У шахматным турніры пераможцам стаў прадстаўнік Слабадскога сельскага Савета **Мікалай Дудкоў.** У шашках першае месца на рахунку **Леаніда Козела** (СПМК-104), паведаміў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму **Леанід Шыдлоўскі**.

У гіравым спорце ў вагавой катэгорыі да 80 кілаграмаў перамог **Аляксандр Стацко** з НДЦ "Зубраня", а звыш за 80 кілаграмаў – **Сяргей Багуцкі** з райаддзела па надзвычайных сітуацыях.

### Вядомыя чвэрцьфіналісты

**ВІЛЕЙКА**. Завяршыўся групавы этап штогадовага турніру па міні-футболе. Па выніках шасці тураў у групе "А" першае месца заняла каманда "Першы Беларускі", другое – "Шылавічы", трэцяе – райаддзел па надзвычайных сітуацыях, чацвертае – "Макаўе". У групе "Б" чацвёрка лепшых выглядае так: "Юніёр", "Буддэталі", "Воўкаўшчына", "Крыніца".

– Адзіная каманда, якая не прайграла на групавым этапе, – "Першы Беларускі", – паведаміў інструктар-метадыст раённага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс" **Аляксандр Вайда**. – Да апошняга тура ішлі без паражэнняў "Буддэталі", аднак яны прайгралі камандзе "Юніёр" і саступілі ёй першае месца ў групе.

У пятніцу, 13 снежня, каманды, якія занялі ў сваіх групах месцы з пятага па сёмае, прадоўжаць барацьбу за 9-14 месцы. А ў нядзелю адбудуцца чвэрцьфіналы. У іх сустрэнуцца "Першы Беларускі" – "Крыніца", "Шылавічы" – "Воўкаўшчына", райаддзел па надзвычайных сітуацыях – "Буддэталі", "Макаўе" – "Юніёр".

Алесь ВЫСОЦКІ.

ХАКЕЙ

# Мінская вобласць супраць Гомельскай – лік 5:3

**МАЛАДЗЕЧНА. У суботу, 7 снежня, у спартыўна-забаўляльным цэнтры прайшлі VII рэспубліканскія спаборніцтвы па хакеі з шайбай сярод аматарскіх камандаў на прызы прэзідэнцкага спартыўнага клуба.**

Гульня адбылася паміж камандамі Мінскай і Гомельскай абласцей.

Першы перыяд гульні закончыўся з лікам 3:1 на карысць Мінскай вобласці. Трэба сказаць, што толькі за некалькі хвілін да свістка на перапынак каманда Мінскай вобласці актывізавалася і дзве шайбы дакладна трапілі ў вароты Гомельскай вобласці, зрабіўшы такі разрыў у ліку.

За другі і трэці перыяды матча, нягледзячы на некаторыя ўдалыя спробы Гомельскай вобласці скараціць лік матча, апярэдзіць каманду сталічнай вобласці так і не атрымалася.

Матч скончыўся перамогай Мінскай вобласці з лікам 5:3.

### Хакеіст Артур Сымановіч: Супрацьстаяць камандам экстралігі? Лёгка!

**Артур Сымановіч**, нападаючы аматарскай каманды Мінскай вобласці, пракаментаваў гульню з камандай Гомельскай вобласці.

– Гульня з камандай Гомеля праходзіла ў запаволеным тэмпе. Мы спакойна і стабільна выйгравалі з лікам 5:1, прапусціўшы толькі адну шайбу ў пачатку першага перыяду. Але, як бывае, калі разумееш, што разрыў у ліку ўжо вялікі, а часу да канца гульні зусім мала, наша каманда дазволіла сабе расслабіцца. Вынік гульні 5:3, але ж на нашу карысць. Я перакананы, што ў далейшым каманда Мінскай вобласці будзе толькі прыбаўляць. Гэта адназначна!

**– Артур, патлумачце, калі ласка, чым аматарская каманда адрозніваецца ад прафесійнай?**

– Я б сказаў, што аматарская ліга адрозніваецца толькі назвай. Ну і адсутнасцю кантрактаў у гульцоў. У аматарскай лізе, як правіла, выступаюць хакеісты, якія па розных прычынах пакінулі прафесійны хакей. Хтосьці з-за ўзросту, хтосьці з-за траўмаў, папрознаму. Але не трэба лічыць аматарскую лігу недасканалай. Тут гуляюць сапраўдныя зоркі беларускага хакея: **Антоненка**, **Шабанаў**, **Шыткоўскі**, **Міхалёў**, **Копаць**, **Бекбулатаў** і многія-многія іншыя. І калі давядзецца супрацьстаяць камандам з экстралігі, то, мяркую, некаторыя каманды аматарскай лігі могуць лёгка з імі паспрачацца.

**– Калі маладзечанцы змогуць убачыць гульцоў аматарскай каманды Мінскай вобласці на справе?**

– Наступная гульня адбудзецца акурат перад Старым Новым годам – 12 студзеня, у маладзечанскім спартыўна-забаўляльным цэнтры. Нашым сапернікам будуць хакеісты з Магілёўскай вобласці.

Наталля ТУР.

СПАРТАКІЯДЫ

# Спартсмены-інваліды з Вілейкі – у пераможцах

**ВІЛЕЙКА. Рэгіянальная спартакіяда для людзей з абмежаванымі магчымасцямі "Разам да перамогі" адбылася 5 снежня ў Вілейскім раёне.**

Праходзіла яна на базе дзіцячага рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра "Надзея". Спартакіяда стала заключным этапам дабрачыннага марафону "Рабі вялікае, не чакаючы вялікага", прымеркаванага да Дня інвалідаў.

У спаборніцтвах удзельнічалі каманды з Вілейкі, Мядзела і Смаргоні. У складзе кожнай былі выхаванцы цэнтраў карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі і аддзяленняў дзённага знаходжання для інвалідаў тэрытарыяльных цэнтраў.

Чакалі іх цікавыя конкурсы, камандная эстафета. А справіцца з усімі выпрабаваннямі удзельнікам дапамагалі валанцёры. Самі ж валанцёры паказалі сваё спрыт і хуткасць у конкурсе па матывах казкі "Рэпка". А ў перапынках паміж конкурсамі музычнымі нумарамі радавалі ўдзельнікаў і балельшчыкаў салісты эстраднай студыі "Спадчына" і артысты Вілейскага Палаца культуры.

Узначальвала журы старшыня дабрачыннага фонду "Мары спраўджваюцца" **Анастасія Касянкова** (жонка вядомага футбаліста **Аляксандра Глеба**). Журы прыйшлося нялёгка: у кожнай каманды было шмат заўзятараў. Дапамагала і падтрымка балельшчыкаў. Сярод іх былі выхаванцы аддзялення дзённага знаходжання для інвалідаў з Маладзечна.

Па выніках усіх конкурсаў у спартакіядзе перамагла каманда "Вясёлка" з Вілейкі. На другім месцы – "Ветразь" з Мядзела, на трэцім – "Верныя сябры" са Смаргоні. Удзельнікаў і валанцёраў чакалі прызы, дыпломы і медалі. Таксама кожная з камандаў атрымала памятны падарунак.

Алесь ВЫСОЦКІ.

# Камент-эксперт




**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

**Чатырохгадовага хлопчыка, які збег ад п'яных бацькоў, знайшлі ў полі**

На жаль, такая сітуацыя далёка не рэдкасць. І дзякуй Богу, што дзіця не загінула. *Тацццяна.*

**Прадпрымальнікі: аптовая база ў Беларусі вырашыла б праблему з сертыфікатамі**

Даеш сертыфікат! *Kirmashnutaj.*

**Паралімпіец Дзмітры Салей: "Назад у Беларусь я не вярнуся"**

Класік добра казаў: "Не шукай ты шчасця, долі на чужым, далёкім полі". Жадаю поспехаў. *Андрэй.*

**"Моладзевы парк" па вуліцы Міру. Прыгожая толькі назва**

А мой парк Камсамольскі. Які быў пры савецкай уладзе, такі і цяпер. Дзе добраўладкаванне, сэрвіс? Калі ў сажалцы ля Ушы буду купацца, як у дзяцінстве? *Nifeus.*

**Гістарычны каляндар на 2014 ад "Будзьма беларусамі!" у Маладзечне раскупілі ў першы ж дзень**

Па-мойму, гэты праект вельмі ўдалы. Па-першае, відэа зробленае з вялікім густам. Гісторыя можа быць цікавай і гэтаму відавочны прыклад. Я глядзела некалькі разоў і не страціла цікавасці. Бо і малюнкі, і тэкст неверагодна прывабныя воку і вуху. Дзякуй, што далі маляванку ў вольнае спампоўванне. Добры падарунак кожнаму дзіцяці. Тым больш, што маляванка правакуе пытанні, на якія бацькам трэба будзе адказаць і праз гэта расказаць дзіцяці штосьці пра гісторыю краіны, у якой мы жывём. Праўда, хацелася б усё ж, каб завезлі і ў кнігарні маляванку ўжо ў аформленым выглядзе: з вокладкай і на добрай паперы. Каб можна было падарыць і не сваім дзецям. Дзякуй за каляндар. Вельмі хачу набыць і сабе, і ў падарунак. Прыгожа, гістарычна, павучальна і па-сучаснаму. Пабольш бы такіх добрых праектаў! *Алеся.*

**На радасць самым маладым віляйчанам адкрылі новую скульптуру – "Рэпку"**

Вялікі дзякуй Валерыю і яго сыну за яшчэ адзін падарунак гораду. Хацелася б, каб яшчэ не адна скульптура ўпрыгожыла наш парк, а то вельмі змрочна ў ім. Паглядзіш на скульптуры Валерыя – і на душы неяк весялей становіцца. *Валянціна.*

**З рэдакцыйнай пошты**

Прачытаў у нашай "Рэгіянальнай газеце" пра тэатр "Батлейка". Як жа я здзівіўся, калі чытаў, што бацькі мелі прэтэнзіі да рэжысёра, што прыехалі ўбачыць беларускамоўны спектакль, а іх дзеці не разумеюць мову. Якая дзікасць! Самі вінаватыя, што, жывучы ў Беларусі, усё сваё жыццё аддаляюцца ад дадзенай нам мовы. Няўжо, як прыйшлі б у кітайскі тэатр, таксама абураліся б, што не разумеюць мову? Вучыцеся самі і дзіця вучыце. ***Чытач газеты.***

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | | | | 8 | | | | |
| | 5 | | | | | 4 | | 7 |
| 7 | | | | | 9 | | | 5 |
| | | 2 | 4 | | | | | |
| | 3 | 7 | | | | 6 | 2 | |
| | | | | | 6 | 8 | | |
| 9 | | | 7 | | | | | 2 |
| 2 | | 4 | | | | | 7 | |
| | | | | 1 | | | | 9 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9сустракалася толькі адзін раз.



## ПЫТАЙЦЕСЯ-АДКАЗВАЕМ

# Жывёла ў кватэры. За што плацяць гаспадары?

**ВАЛОЖЫН. За ўтрыманне жывёл у кватэрах у домакіраўніцтве рэгулярна вылічваюць з уладальнікаў пэўныя сумы. Хацелася б ведаць, за якія паслугі?**



Фота dogvacay.com.

**Не кожная жывёла можа жыць у кватэры бясплатна.**

З такім пытаннем звярнулася да нас у рэдакцыю **Аляксандр**. У кватэры, гаворыць Аляксандр, усталяваныя лічыльнікі на электраэнергію, газ, ваду. За ацяпленне налічэнне робіцца па плошчы. Каналізацыяй і ліфтам жывёлы не карыстаюцца. Атрымоўваецца, колькасць тых, хто жыве ў кватэры, не іграе ролі. Пляцовак для выгулу ў горадзе няма. Прышчэпкі ад шаленства бясплатныя, гэта акцыя дзяржавы і фінансуецца з бюджэту. Астатнія прышчэпкі і лекі платныя. Дык за што ж мы плацім?

Такое пытанне мы задалі вядучаму бухгалтару разлікова-касавага цэнтра горада Валожына **Антаніне ЖУК**.

– Мы дзейнічаем, згодна з загадам Мінскага аблвыканкама. Грошы, якія вылічваюць з уладальнікаў жывёл, паступаюць у раённы бюджэт. Падатак плацяць толькі ўладальнікі сабак. Для гаспадароў катоў ці іншых жывёл такі падатак не прадугледжаны. Памер падатку вылічваецца ў залежнасці ад памеру жывёлы і толькі з дасягнення жывёлай трохмесячнага ўзросту. За маленькага сабачку вы заплаціце 6 500 рублёў, за сабачку сярэдняга памеру –13 000, а за вялікага сабаку – 65 000 рублёў у месяц. Падатак з уладальнікаў-пенсіянераў, інвалідаў першай і другой груп, адзінокіх грамадзян, ветэранаў не бяруцца. Таксама падатак не бяруцца з тых, хто жыве ў сваім уласным доме.

У нас вядзецца сшытак, дзе запісаныя звесткі пра гаспадара і жывёлу. Гаспадар прыводзіць жывёлу ў домакіраўніцтва, мы замяраем вышыню карка сабакі і запісваем гэтыя дадзеныя ў сшытак.

Грошы, што плацяць гаспадары, пойдуць на добраўпарадкаванне месцаў для выгулу сабак ці на набыццё мікрачыпаў для хатніх жывёл.

Аднак хачу адзначыць, што ў Валожыне такі падатак плацяць толькі 11 чалавек.

**Падрабязную інфармацыю наконт рэгістрацыі жывёл можна атрымаць у інспекцыі па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне па тэлефонах: 770625, 772830, 777796.**

**Наталля ТУР.**

## РЭПЕРТУАР

# Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Драма "**Каляфутбола**" (Расія, 2013, для гледачоў, якім за 16 год)
13 снежня – 21.00
14, 15 снежня – 19.00, 21.00
16 снежня – 21.00
17, 18 снежня – 19.00
19 снежня – 19.00, 21.00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Камедыя "**Востраў вязнення**" (Расія, 2013, для гледачоў, якім за 16 год)
13 снежня – 19.00
14, 15 снежня – 17.00
16 снежня – 19.00
17, 18 снежня – 21.00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Анімацыйная камедыя "**Вырататаваць Санту**", 3D (Вялікабрытанія, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў і педагога)
13 снежня – 17.00
14, 15 снежня – 14.30
18 снежня – 17.00
Кошт білета – 25 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Любімчыкі**" (Іспанія)
14, 15 снежня – 15.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Прыгоды, фэнтэзі "**Апошні дракон: У пошуках магічнай жамчужыны**" (Аўстралія)
14, 15 снежня – 17.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Трылер "**Перавозчык 3**" (Францыя, Вялікабрытанія, ЗША)
13-15 снежня – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Трылер "**Зыходны ход**" (ЗША)
13 снежня – 17.30, 19.30
14, 15 снежня – 19.30
16 снежня – 21.30
18 снежня – 19.30
19 снежня – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Камедыя "**Ржэўскі супраць Напалеона**" (Расія)
17, 18 снежня – 21.30
19 снежня – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

**17 снежня – дакументальная праграма да Дня беларускага кіно: "Шчыт Айчыны", "Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі – 90 год", "Аповесць мінулых гадоў"** – 19.30
Кошт білета – 13 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

# Мінскі абласны драматычны тэатр

**Рэпертуар на снежань**

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Нязваны госць**" (ну, ве-е-е-льмі сур'ёзная камедыя), Святлана Бартохава
26 чацвер 19.00,
27 пятніца 19.00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17**. E-mail: modt@tyt.by.

# Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Хохлік**". С.Кавалёў.
15 снежня – у 12.00.

Ад 18 па 30 снежня – навагоднія ранішнікі "**Навагоднія хітрыкі Карлсана, альбо Спакой, толькі спакой**".

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

## ГАРАСКОП (13-19 СНЕЖНЯ)

**Авен.** Удзяліце час дому, займіцеся бытавымі пытаннямі і, вядома, падрыхтоўкай да навагодніх свят. Падключыце да гэтага і другую сваю палавінку, гэта ўмацуе адносіны.

**Цялец.** Вы можаце дасягнуць шмат чаго ў сваім жыцці дзякуючы высокай працаздольнасці і прыроджанаму практыцызму. І не шукайце стабільнасці і адсутнасці перамен.

**Блізняты.** Падарункі і святы могуць падарваць сямейны бюджэт. Але вы можаце набыць тое, пра што марылі. Шопінг удасца на славу!

**Рак.** Вам трэба быць больш уважлівым і не лунаць у аблоках. Аднак адносіцеся да ўсяго, што адбываецца, з вядомай доляй лёгкасці.

**Леў.** Перыяд прынясе з сабой зорны ўплыў, ад вас запатрабуецца не ўпусціць шанц, які дарує лёс, і кантраляваць тое, што адбываецца за вашай спіной.

**Дзева.** Ваша ўменне хутка ўнікаць у сітуацыю і браць яе пад кантроль выключа ўсеагульнае непадробнае захапленне. Паспрабуйце раскрыць свае ўнікальныя таленты, асабліва ў сферы зносін.

**Шалі.** Кантралюйце свае эмоцыі. Цяпер вы здольныя многае змяніць, прычым ад вас не спатрэбіцца ніякіх звышмагутных намаганняў, а ад завершанасці ў справах вы самі адчуеце глыбокае задавальненне.

**Скарпіён.** Не шкадуйце аб згубленых магчымасцях. Змяніць мінулае магчыма, толькі змяніўшы да яго свае адносіны. Прыслухайцеся да ўнутранага голасу.

**Стралец.** Падключыце да вашых ідэй творчы складнік – тады вас чакае фантастычны поспех. Зоркі раяць на касплівуць у сабе негатыўныя эмоцыі, а даваць ім выхад, дапамагаючы тым самым сваёй нервовай сістэме.

**Казярог.** Новыя падзеі, якія адбудуцца на працы, адцягнуць вас ад сумных думак і падораць зарад аптымізму.

**Вадалей.** У вас з'явяцца новыя захапленні. Складайце планы на бліжэйшую і аддаленую будучыню, ёсць шанц таго, што ўсё збудзецца.

**Рыбы.** Вам усё жыццё даводзіцца змагацца з лянотай, інертнасцю і страхамі ў сваёй душы, і гэта перашкаджае правільнаму эвалюцыйнаму развіццю. А цяпер падвернецца цудоўны момант даказаць сабе і наваколным, чаго вы варты!

**Марыя УРБАНОВІЧ.**


ISSN 1991-7155

Камент-эксперт




Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета

## ■ НАДВОР'Е

**13 снежня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | 0 / +2 | | -1 / -1 | | -1 / +1 | | 0 / +2 | |
| | 738 | ↘ 5 | 747 | ↘ 3 | 747 | ↗ 1 | 733 | ↗ 4 |
| Вільня | +1 / +5 | | -2 / -1 | | -1 / +3 | | +1 / +1 | |
| | 750 | ↘ 6 | 757 | ↘ 6 | 756 | → 3 | 757 | ↗ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, заход па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 9.26
Захад 16.48
Даўжыня дня 7.22

Усход 15.16
Захад 6.07
Квадра 3




## ■ ПРЫКМЕТЫ

- Снежань зямлю грудзіць, хаты студзіць.
- Дзень пакутніцы Варвары (17 снежня), святкаваўся як час зімовага сонцастаяння. ("Варвара ночы ўварвала, а дня прытачыла").

## ■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Якое вынаходніцтва для вас самае важнае?

**Анатоль Мароз, пенсіянер:**



– Цяжка адказаць на такое пытанне. Калі гаварыць, без каго я не магу жыць, то без жонкі. А з прадметаў... Калі рукі ёсць, то ўсё з'явіцца.

**Улада Бляяўская, вучаніца:**



– Усе значныя. Я не магу абысціся без інтэрнэта. Для людзей, якія жылі некалькі стагоддзяў таму, самым важным была магчымасць падарожнічаць, інтэрнэта і тэлефона ж не было. Для іх важнымі былі калёсы, караблі.

**Наталля Ракоўская, цырульніца:**



– Цяжка вызначыць самае неабходнае. Магчыма, аўтамабіль. Без тэлефона абысціся можна. У прынцыпе, і без машыны можна. А вось без чаго дакладна немагчыма – без цырульні!

**Павел Чаброўскі, навучэнец:**



– Халадзільнік. Мне цікава, як працуе мабільны тэлефон, сама бесправадная сувязь. Пакуль, на жаль, не спрабаваў высветліць, але хацеў бы пра гэта даведацца. Людзям, якія жылі даўней, найперш патрэбныя былі ўменні для розных рамёстваў.

**Канстанцін Лебедзь, пенсіянер:**



– Хацелася б такую машынку, што рэжа і метал, і дрэва, якую рэкламуюць. Пазнаў, што цяпер ужо не абыдзешся без тэлевізара, пральнай машыны, халадзільніка. У космас лятаем, а без болю зубы не палечыш. Хацелася б, каб лекі ўсе патрэбныя вынайшлі.

**Арцём Юшкевіч і Арцём Салюк, вучні:**



– Інтэрнэт. А на другім месцы – туалет.

**Падрыхтавалі Зоя ХРУЦКАЯ, Наталля ТУР.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Ці ведалі вы пра тое, што знакамітыя шатландскія валынкі паходзяць ад беларускай дуды? Што Саўка ды Грышка са знакамітай песні былі арганізатарамі вяселляў? Пра гэта і не толькі – у размове з дударом Сяргеем Яруком у наступным нумары газеты.**







Рэгіянальная газета
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 50 (972) 13.12.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 1145. Падпісана ў друк у 10.00 12.12.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.